
«Рэха Пушчы» — 35 гадоў! ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Яшчэ пра Тарашкевіча ➔8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 49 (3212) Год LXII | Беласток, 3 снежня 2017 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)





# перад юбілеем

**Ян Чыквін: „У свой час па-за межамі Беларусі стварыліся два творча-культурныя асяродкі. Адзін — у ЗША, з сядзібай у Нью-Йорку, а другі ў Беластоку. Творчасць беларускіх пісьменнікаў у Польшчы развівалася ў адметным асяроддзі, калі асяроддзе рознілася і ад савецкага, і ад цяперашняга беларускага, і эміграцкага. А адначасова літаратура „белавежцаў” не выпадала ані з польскага, ані з беларускага нацыянальна-культурнага кантэксту. Параўнальна невялікая тэрыторыя нашага рэальнага існавання і поўная агульнасць лёсаў спараджалі два вектары развіцця літаратурных тэм і матываў „белавежцаў”. З аднаго боку памкненне да паэтызацыі сваёй малой айчыны, заземленасць у штодзённай і непаўторнай нашай эмпірыі, нашай рэчыўнасці, а з другога патрэба філасофскай заглыбленасці, абагуленасці ў асэнсаванні універсальных чалавечых каштоўнасцей...” Галіна Тычка назвала заснаванне 8 чэрвеня 1958 года ў Беластоку літаратурнага аб'яднання пры рэдакцыі штотыднёвіка беларусаў Польшчы „Ніва” гістарычнай падзеяй агульнанацыянальнай значнасці. У 1962 годзе аб'яднанне атрымала вельмі адпаведную, трапную назву „Белавежа”, пад якой і ўвайшло ўжо ў гісторыю беларускай літаратуры. А гэтая рунь вырасла са старонак „Нівы”, з палетка засеянага Георгіем Валкавыцкім, і закаласілася сотнямі загалоўкаў кніг.**

Беларускаму літаратурнаму аб'яднанню „Белавежа” да **юбілею 60-годдзя** засталося паўгода. Заснавана яно было ў чэрвені 1958 года, пры рэдакцыі штотыднёвіка беларусаў „Ніва”, гуртуючы пры рэдакцыі аўтараў пішучых па-беларуску ў Польшчы. Яднае яно творцаў розных пакаленняў — ад творчых „дзядоў” да „ўнукаў” ці можа нават „праўнукаў”. Сярод пачынальнікаў беларускага літаратурнага беларускага руху ў Польшчы былі, між іншым, Георгій Валкавыцкі, Сакрат Яновіч, Уладзімір Гайдук, якія ўжо адышлі ў іншы свет. Ушаноўваем памяць памерлых „белавежцаў”, у тым ліку і Яшы Бурша (Яна Анісэровіча — Івана Бокшы), Алены Анішэўскай, Міхася Шаховіча, Васіля Баршэўскага, Міколы Гайдука.

Ян Чыквін: „Гэтыя гады — перыяд значны. І калі зазірнуць у той дзень, 8 чэрвеня 1958 года, то ніхто тады не мог падумаць, што вось гэты дзень адкрывае значную падзею даўжынёю ў такі шмат гадоў. Ужо тады былі ў літаратурным руху, з аднаго боку, асобы, якім было пад 50, і былі такія, якія мелі 17-18 гадоў. Напрыклад, Валодзя Гайдук і я былі зусім маладыя, мала старэйшыя Сакрат Яновіч ці Восіп Мялеша, пра якога цяпер менш згадваецца. Вядома, быў і асноўны ініцыятар заснавання такога аб'яднання — Георгій Валкавыцкі. Былі Віктар Швед, Яша Бурш, Мацей Канапацкі і Вінцук Склубоўскі, Дзмітры Шатыловіч, Янка Дубіцкі (Ян Чыквін), Мар'ян Пецюкевіч, Пётр Ластаўка, Мікола Буцылін, Вацлаў Асіповіч, Францішак Берніковіч. Былі Алесь Свісёк (Аляксандр Батура), Міхась Баравік, Алесь Барскі (Аляксандр Баршчэўскі), Янка Беразавец, Восіп Мялеша, Андрэй Беразавец, і найстарэйшы, народжаны ў 1891 годзе — Антось з Лепля (Антон Васілеўскі). Гэта была вельмі цікавая група. Спрыяла палітычная, грамадская і культурная сітуацыя”.


Ян Чыквін

— На працягу ўсёй нашай гісторыі на творчым рахунку БЛА „Белавежа” назбіралася на сённяшні дзень агулам сотні кніжных публікацый, — адзначыў прафесар Ян Чыквін. — Пачатак дае „Рунь” у 1959 годзе, асобныя зборнікі паэтаў, кнігі ў серыі Бібліятэчкі „Белавежы”, тамы „Тэрмапілаў” і штогоднікі „Году Беларускага”. А колькасць паасобных твораў, апублікаваных усімі „белавежцамі” ў аўтарскіх кнігах, на літаратурных старонках, у календарах, альманахах, краёвых і замежных выданнях, а таксама ў перакладах застаецца па сутнасці ўжо непалічальная. Беларуская літаратура Польшчы — з'ява невыпадковая, а гістарычна-культуровы вынік глыбокага нацыянальнага ўсведамлення сябе — беларусаў — беларусамі. Творчасць „белавежцаў” з'яўляецца выдатным прыгожым летапісам гэтай укаранёнай нацыянальнай свядомасці, якая безупынна аднаўляецца, безупынна асвяжаецца і з'яўляецца жывой. Гэтая думка рэзка кантрастуе з агульным адчуваннем недахопу чытачоў нашых кніг, недахопу сталага, частага кантакту з чытачамі нашых твораў. Але калі прыгледзімся бліжэй, то гэтая карціна нашага існавання не такая ўжо і змрочная. Ніхто не можа аспрэчыць, што ў 60-70 гадах сотні сваіх чытачоў мелі Алесь Барскі і Віктар Швед. Ад пачатку 80-х гадоў мелі іх Сакрат Яновіч і Васіль Петручук. Вялікай папулярнасцю карысталася тут і ў Беларусі паэзія Надзеі Артымовіч. Здаўна прыгожа ўспрымаліся і надалей успрымаюцца дзіцячыя вершы Віктара Шведа. Мае сваіх чытачоў і проза Міхася Андрасюка. Многія творы „белавежцаў” трапілі ў школьныя праграмы. Творы „белавежцаў” вывучаюць на спецкурсах у беларускіх вышэйшых навучальных установах, ва ўніверсітэтах. Пісьменнікі „Белавежы” здаўна ўключаны ў агульнабеларускі літаратурны працэс і культурна-навуковы абмен каштоўнасцямі, і самі пісьменнікі, згуртаваныя ў „Белавежы”, павінны мець свядомасць сваёй значнасці ў гэтых працэсах і несці асабістую адказнасць за падараваны ім найперш творчы талент... Беларуская літаратура ў Польшчы мае свае рысы і адметнасці. Найперш яна характарызуецца тым, што не была саветызаваная, а мела і мае выразна выяўленую нацыянальную адметнасць, здаровы нацыянальны вектар. „Белавежцаў” у першую чаргу яднала і яднае не ідэйна-эстэтычная праграма, а шырока разуметыя нацыянальныя інтарэсы, нацыянальная ахвярнасць, абарона роднага, абарона нацыянальнай заходняй крэпасці. З перспектывы шасцідзесяцігоддзя гэты арыенцір „белавежцаў” бачыцца як асноўны і надалей дзейсны і перспектыўны.

Кожны з сяброў БЛА розны і па свайму характару, як і манеры ці тэме творчасці, хаця яднае іх знак.

— Для дзейнасці арганізацыі патрэбны развага і цвярозы прагматызм. Ёсць просьба да калег браць пад увагу менавіта дабро аб'яднання, той арганізацыі, якая займаецца сацыяльна-арганізацыйнымі справамі і па статуце не можа ўваходзіць у псіхалогію творчасці, — кажа старшыня літаб'яднання.

Заснавальнікамі „Белавежы” было 18 чалавек, і сёння дзейсных „белавежцаў” прыблізна столькі ж. Як на пачатку „Белавежа” спалучае ў сваіх шэрагах творцаў адразу трох-чатырох пакаленняў. Найстарэйшым сябрам нашай арганізацыі застаецца Антон Васілеўскі, а наймалодшая цяпер сяброўка літаб'яднання — Кацярына Сянкевіч — народжаная роўна сто гадоў пазней чым ён — у 1991 годзе.

— Гэты стагадовы біялагічны фактар, біялагічны дыяпазон гаворыць пра яе культурна-нацыянальную ўкаранеласць. Цягам амаль 60 гадоў „Белавежы” яе літаратурна-мастацкую падзейнасць тварылі і творац больш за сто асоб, хаця дэбютавала на Літаратурных старонках „Нівы” больш за чатырыста.

Сакрат Яновіч: „Мы — самая трывалая, найбольш жыццяздольная пісьменніцкая група ў краіне. „Белавежцы” ўзбагацілі агульнамастацкае ўяўленне — вобразам Беласточчыны. Сярод нашых папярэднікаў — Кастусь Каліноўскі з Мастаўлян (Яська-гаспадар з-пад Вільні), Сцяпан Пятэльскі з Гарадка (М. Арол), Вера Маслоўская з Супрасля (Вера Мурашка), Сяргей Крывец”.

Пісаў настаўнік і калега Георгій Валкавыцкі на першай Літаратурнай старонцы 29 чэрвеня 1958 г.: — Бацькаўшчына, прырода, мова! Добра. Будзем пісаць. Але адкінем дэкларатыўнасць (...), выплывем з магічнага трохвугольніка на шырэйшыя воды”.

На „Літаратурнай старонцы”, якой выйдзе ў „Ніве” больш за чатырыста нумароў, будуць публікавацца вершы, проза, пераклады і літаратурная крытыка. Літаратурна-мастацкая група „Белавежа” стане Беларускім літаратурным аб'яднаннем „Белавежа”, са сваім штогоднікам, а на старонках „Нівы” пасыпліцца зярняткі наступнага пакалення, маладзейшага ад самой „Нівы” і „Белавежы”, а зараз і яшчэ наступнага, выхаванага на „Ніве”.

На апошнім справаздачна-выбарчым сходзе ва ўправу БЛА выбраны Ян Чыквін (старшыня), Віктар Стахвюк (намеснік старшыні), Міра Лукша (сакратар), Анна Альшэўнюк (скарбнік) і Галіна Тварановіч (член управы).

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**





# Пра коцікаў і чыпсы

Пра рутэній-106 шырокія масы насельніцтва здаецца ўжо забыліся. Ці калі быць больш дакладным, то шырокія масы, у гэтым дакладным разуменні слова „шырокія”, пра яго хіба што нічога і не чулі. Хоць было ўсё зусім нядаўна. А тыя, што чулі, ужо забыліся або проста не хочуць, або не маюць часу пра яго думаць. І вось цяпер і тыя, што нешта чыталі пра гэты радыеактыўны элемент, і тыя, хто гэтую інфармацыю праглядзелі, знаходзячыся ў роўных умовах — ніхто нічога не ведае. І ведаць не хоча. Падумаеш, недзе там у Расіі, на нейкім Урале здарылася нейкая тэхнагенная катастрофа. Калі думаць пра ўвесь негатыў які здараецца ў Расіі, мазгі звіхнуць можна, нават калі ты не рускі.

Нічога дзіўнага ў тым няма. Рутэній не выключэнне. Так з усім іншым таксама. Сучасныя сродкі масавай інфармацыі гоняцца за сенсацыяй і галоўным крытэрыем для сябе ставяць выключна аператыўнасць падачы інфармацыі. Як яна паўплывае на змену сітуацыі — гэта справа дзясятая. У сённяшнім свеце галоўнае быць першым. Ад гэтага залежыць усё. Толькі тады цябе заўважаць заказчыкі рэкламы, фундатары, інвестары, спонсары і ўсе астатнія патрэбныя для выжывання асобы. Навамодныя зараз сацыяльныя сеткі імгненна выкідваюць інфармацыю ў сеціва, дзе яна яшчэ больш імгненна злятае ўніз электроннага экрана, саступаючы сваё месца наступнай публікацыі. І не важна якой. Хоць там будзе чарговы здымак чарговага коціка або талерка з недаедзенымі на сняданак чыпсамі, ёй месца вымушаная будзе саступіць нават паведамленне пра глабальную сусветную катастрофу. І яшчэ невядома, што больш набярэ лайкаў.

Вось было б добра савецкім ідэолагам, каб сённяшнія тэхналогіі былі ў той час. Не трэба было б хаваць ад усяго свету і ад свайго насельніцтва нават трагедыю на Чарнобыльскай АЭС. Інфармацыя сама зляцела б са стужкі навін некуды ўніз ці ў нябыт хутчэй чым развеялася б радыеактыўнае воблака над Чарнобылем. А то, каб заблытаць Захад, яны павыганялі на першамайскія дэманстрацыі пад радыеактыўнае пекла сотні тысяч сваіх суайчыннікаў. Маўляў, глядзіце, хто б стаў рызыкаваць жыццём такой колькасці людзей, калі б небяспека сапраўды існавала?! На шчасце на той час Захад быў іншы і не паверыў у тую бесчалавечную хлусню, бо добра ведаў, што бальшавікі ніякім чалавечым жыццём, акрамя свайго ўласнага, не апякуюцца. І ў звычайным ручным рэжыме, проста выкарыстоўваючы толькі рэвалюцыйны наган, загубілі тых жыццяў больш чым усе тэхнагенныя катастрофы і прыродныя катаклізмы разам узятыя.

Зрэшты там, на Урале, з чарнобыльскіх часоў хіба мала што змянілася. І як аказалася не толькі на Урале. Расійскі бок не проста зрабіў спробу замаўчаць пра выкід рутэнію, але калі гэта зафіксавалі прыборы ў далёкай Францыі, нават паспрабаваў накінуць цень на самых французаў. Пасля прызнаў, што нешта там нядобрае сапраўды здарылася, але вуснамі свайго высокапастаўленага чыноўніка параіў суайчыннікам „піць піва і глядзець футбол”. Маўляў, не загружайцеся вы гэтымі праблемамі. У вас і іншых хапае, ад якіх вам мала не будзе. А наяўнасць рутэнію не асабліва паўплывае на агульны малюнак. Ну сумна ім займацца Уралам. Ды і Расіяй займацца сумна. Іншая справа Сірыя, ці Крым, ці Данбас... Вось там сапраўды ёсць дзе разгуляцца фантазіі.

Ну а што ж у краіне, якая найбольш пацярпела ад Чарнобыля і зараз займаецца пабудовай айчыннай ядзернай энергетыкі? А ў ёй усё ціха. Тут як заўсёды радыеактыўны фон у норме. І ўсе астатнія фоны таксама ў норме. Стабільнасць. І тут таксама стала хіба што сумна думаць пра тое, што робіцца ва ўсходняй суседкі. І сапраўды, як ужо было падкрэслена, калі пра тое думаць, то мазгі звіхнуць можна.

А думаць мусіць трэба, бо хіба што там будуць захоўвацца адпрацаваныя адкіды ядзернай энергетыкі і нашай сінявокай. Вось гэтыя рутэніі, і не рутэніі таксама. І як аказваецца, яны вельмі хутка могуць прылецець з месца свайго пахавання да месца свайго ўзнікнення і застацца тут значна даўжэй, чым аператыўная стужка навін пра іх зляціць некуды ў нябыт з сацыяльных сетак, саступіўшы сваё месца коцікам і недаедзеным чыпсам.

Віктар САЗОНАЎ



# Не пра Толічка

На аўтамабілі Стася выбраліся мы да лекараў. Кожны да свайго. Выехалі на дзве гадзіны раней. Стась чакаў паўгода візіту ў спецыяліста, я падобна, на месяц даўжэй. Суцяшаю Стася, што і так коратка. «Праўда гэта, — уцешыўся Стась. — У тэлевізійных навінах паведамілі, што эндакрынолага чакаецца больш за дзясятак гадоў. Свінні гэтыя лекары! У тэлебачанні казалі».

Як доўга працягваецца тэлевізійная інфармацыя? Мо паўхвіліны. Не больш, таму што глядач не можа засяродзіць сваю ўвагу даўжэй. Мусяць хапіць тры словы: «што, хто, дзе?». Заўсёды астатнюю частку вобраз і яго эмацыйнае паведамленне. Такім чынам, эмоцыя роўная зместу... Мінаем адну вёску, другую... Стась ведае ўсіх мясцовых жыхароў. Аб кожным мае што сказаць. Зазімак, дык кожны дапаўняе запасы паліва. Адзін пілуе бярэзіну, іншы сячэ сасніну. «Калі б я меў большую пенсію, дакупіў бы бярозы, — летуценіць Стась. — Яна найлепш гарыць! Але і самая дарагая. А што тая мая пенсія? Што не на жыццё, ідзе на лякарствы. Свінні гэтыя лекары! Толькі гавораць пра рэформы. І яшчэ крычаць, што зарабляюць замала!» — «Ты таксама крычыш на жабрацкую пенсію, але любы чыноўнік скажа табе, што атрымліваеш належнае. Да аднаго злота, які на працягу многіх гадоў ты ўплачваў на фонд медыцынскага страхавання, калі працаваў. Паводле яго ўсё правільна, хаця ты думаеш, што не. Абодва маеце рацыю...» — «Э-э там», — фыркнуў Стась. Аднак дыскусіі не працягваў... Маўклівa вёў аўтамабіль; штосьці задумаўся... Я не здаюся: «Даступнасць лекараў-спецыялістаў, праблема другасная. Даходы лекараў, праблема трацічная. На чацвёртым месцы маральнае стаўленне лекараў. Найважнейшае — сістэма аховы здароўя неэфектыўная па сваёй прыродзе. Таму, што яе структурна пакарабачаная...» — Стась, аднак, маўчыць. Я кудахтаю далей. «Чарговыя рэформы, вымушаныя на СЛД, ГП ці ПіС сацыяльнай незадаволенасцю, ахоплівалі яе галоўныя часткі, не аказваючы ўплыву на структурную аснову. Аснову нябачную, пакуль не высветліцца яе ідэалагічны кантэкст. Іншы бок, як і ў выпадку Месяца, заўсёды цёмны. Каторы? Каторы ясны для эгалітарнага канцэпту, які пастулюе роўную медыцынскую дапамогу для ўсіх, незалежна ад кошту страхавання, а каторы — для неэгалітарнага, які апіраецца на індывідуальнай беражлівасці і ўласным укладзе ў эксклюзіўнае медыцынскае страхаванне, які гарантуе высокі стандарт лячэння?»

Стась надалей маўчыць, так што я сам адказваю: «Абодва гэтыя панацці, калі ўжываць іх літаральна ў глыбокай рэформе службы аховы здароўя пакажуць свае перавагі. Але таксама раскрыюць свае жахлівыя мінусы. Яны — Сцыла і Харыбда для кожнай дзяржавы. Гэта молат і кавадла. Выбар паміж сацыялістычнай і капіталістычнай ідэалогіяй — цяпер непрымальнай у чыстым выглядзе ні ў якім крайнім яго выпадку. Гэта выбар паміж супольным салідарызмам і дынамічным, але эгаістычным індывідуалізмам. Зноў жа ўсё гэта непрымальнае ў любым сучасным грамадстве. Такім чынам, радыкальнае змяненне палітычнай сістэмы ў сістэме аховы здароўя будзе эквівалентнае рызыкоўным працяглым сацыяльным эксперыментам. Рэч, з палітычнага пункту гледжання, вельмі рызыкоўная. Якая ўлада, прадстаўляючая нейкую ідэалагічную канцэпцыю і, такім чынам, меўшая адабрэнне значнай часткі грамадства, прыме на сябе такую задачу? Для таго, каб дачакацца выніку, трэба палітычна рызыкоўныя, таму што радыкальныя, рашэнні. Патрэбны час, каб зрабіць поўную функцыянальную пераацэнку ўсёй сістэмы дзяржаўнага кіравання. Але грамадскае цярпенне адчула б вялікі ціск часу. І абмежавання дзяржаўнага бюджэту, з якога рэформа была б фінансавана. Многія, нават багацейшыя ад Польшчы дзяржавы не могуць дазволіць сабе такі экстрэмальны эксперымент. Лекары да гэтага нічога не маюць. Лячылі і будуць лячыць, у адпаведнасці са сваімі магчымасцямі і абставінамі. Такім чынам, сістэмныя змены ў сістэме аховы здароўя з'яўляюцца ўтопіяй. Яны на самой справе рамонт — падпіраюць толькі тое, што валіцца. Улада падтрымлівае змены, часта супраць рацыянальных і практычных умоў, толькі дзеля захавання свайго прэстыжу». Урэшце Стась азваўся: «Толічак бярозу купіў. Хіба з10 метраў... самой бярозы. А пенсіянер, як я. Свіння!» — «Ну што ты! Ён таксама свіння, але ж не лекар... Рэформы не будзе». — «Пра якую рэформу ты кажаш? Я ж пра Толічка казаў»...

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Хто наступным падазроным?

Не сціхае закалот з дэкамунізацыйным перайменаваннем вуліцы Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім і вуліцамі Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Гайнаўцы. Чым далей, то ўсё паказвае на абсалютную прадузятую ідэалагізаванасць у прынятых дзеяннях кіраўніцтва Інстытута нацыянальнай памяці. І страшна, і смешна, — хочацца сказаць, глядзеўшы халодным сэрцам і вокам на ўсю гэтую справу. Але не да смеху нам, беларусам, якім вонкавыя «гістарычныя інквізітары» рашаюць, што і хто мае быць нашай нацыянальнай, гістарычнай памяцццю і спадчынай. У мінулым, але і сённяшнім свеце, кастрацыя з гістарычнай памяці іншых народаў заўсёды з'яўляецца памкненнем, запісаным не ў палітыку партнёрства і добрасуседства, а ў звычайнае неакаланіяльнае думанне закамплексаваных народаў. Умяшальніцтва ў спадчыну іншых народаў і патрабаванне адзінага, слушнага толькі польскага пункту гледжання з'яўляецца падыходам далёкім ад гістарычнай праўды пра ўсе тыя падзеі, якія мелі месца ў гэтай часткі Еўропы ва ўсім дваццатым стагоддзі. На жаль, ва ўзніклай сітуацыі безупынна даказваць, што мы не вярблюды, становіцца ўжо проста невыносным, бо тут надалей спрацоўвае метадалогія пракурора сталінскіх часоў кшталту «дайце мне чалавека, а параграф на яго знойдзецца». Калі ж цяпер мы дэкамунізуем Браніслава, Якуба і Янку — то хто можа быць наступным падазроным? Антон Луцкевіч, ксёндз Адам Станкевіч, ксёндз Вінцук Гадлеўскі? Ці ж увесь беларускі рух права напраму не можа раптам быць абвінавачаны ў беларускім нацыяналізме і антыпольскасці з параграфу аб прапагандаванні таталітарных сістэм? Дзьмухаю на халоднае, але пішу гэтыя словы кіруючыся выказваннямі старшыні ІНП Яраслава Шарэка, які ў Беластоку заявіў, што доказам віны Браніслава Тарашкевіча з'яўляецца тое, што называў ён беларускіх палітычных дзеячаў антыкамуністычнага ўхілу фашыстамі. Гэты аргумент у вуснах прафесійнага гісторыка мне, гісторыка-аматара, проста ашарашыў. Адзін з інтэрнаўтаў пракаментаваў гэтае выказванне наступным чынам: «Аргумент несур'ёзны. Якімі словамі перакідваюцца палітыкі розных плыняў у мінулым ці сёння хопіць паслухаць у польскім сейме, ці ў сродках масавай інфармацыі. Словы пра фашыстаў і камуністаў лётаюць паміж удзельнікамі дыскусіі так часта, што проста не пералічыць. Палітычная барацьба паміж беларусамі гэта таксама нармальнасць. І ў нашай гісторыі ёсць месца для Тарашкевіча і ксяндза Станкевіча. Так як у польскай для Пілсудскага і Дмоўскага, якія абкідваліся паміж сабою не абы-якімі лаянкамі». Яшчэ адна дэкларацыя, з якой старшыня ІНП выступіў у Гродне і паўтарыў у Беластоку, звярнула маю ўвагу. Менавіта заява пра патрэбу запрасіць беларускіх гісторыкаў і паказаць ім дакументы і абмеркаваць асобу дэкамунізаванага Таршкевіча. Такі падыход і логіка дзеянняў навуковага інстытута абсалютна адваротная ад той, якая павінна быць прынята раней. Гэта быццам спачатку расстраляць вераб'я з гарматы, а потым гаварыць і пагадзіцца, што можна было расстраляць з дубальтоўкі. А кампраміс заключаецца ў тым, што за першым стрэлам з вераб'я не засталося нічога, апрача пылу. У другім выпадку, стрэлу шротам, мы яго проста не разарвем, але ў жывых таксама не пакінем. Вось такая здаецца быць логіка быццам кампраміснага пошуку выхаду са становішча. Пра што мы маем гаварыць, калі да гэтай пары не можам пазнаёміцца з абгрунтаваннем рашэння Інстытута нацыянальнай памяці ў пісьмовай форме! Да чаго маюць аднесціся гісторыкі і, напрыклад, беларускія арганізацыі, калі не маюць чорна па белым напісаных закідаў і абвінавачванняў у адрас Тарашкевіча. Урэшце старшыня ІНП Яраслаў Шарэк павінен ведаць, што дзейнічае ў Беластоку прафесійнае і прызнанае ў міжнародным навуковым свеце Беларускае гістарычнае таварыства, якое гісторыі беларусаў у Другой Рэчы Паспалітай і іх лёсам прысвяціла не адзін артыкул ці кніжнае выданне. І менавіта іх аргументаў трэба было паслухаць, пакуль разлілося малако, а не пастфактум.

А я са свайго боку дзякую прафесар Лене Глагоўскай за тое, што, пачаўшы з гэтага нумара «Нівы» і ў двух наступных, можам надрукаваць ейныя разважанні пра Браніслава Тарашкевіча.

Яўген ВАПА

# 35 гадоў з беларускім рэпертуарам




■ Дырыжор і заадно мастацкі кіраўнік «Рэха пушчы» Аліна Негярэвіч

**10 гадоў назад хору Гайнаўскага дома культуры была прысвоена назва «Рэха пушчы». Ствараўся ён у 1982 годзе як беларускі хор пры Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы па ініцыятыве гайнаўскага гуртка Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Калі стала займацца ў ім многа людзей і рэпетыцыі пачалі праводзіцца ў Гайнаўскім доме культуры, хор перайменаваўся на Беларускі калектыў песні ГДК. Спяваў ён на беларускай літаратурнай мове і выконваў фальклорныя песні Гайнаўшчыны, выступаў на польскай, расійскай і ўкраінскай мовах. Зараз складана высветліць, калі хор або калектыў, як яго ізноў сталі называць, згубіў у сваёй назве слова беларускі. З-за рэпертуару, які выконвае хор ГДК, называлі і называюць яго беларускім. Хор часта ўзнагароджваецца на фестывалі «Беларуская песня», захапляе спевам удзельнікаў мерапрыемстваў, у тым ліку беларускіх. Калектыву песні ГДК «Рэха пушчы», як ён зараз афіцыйна называецца, удавалася прыцягваць да сябе штораз малодшых гайнавян, павышаць мастацкі ўзровень спеву і дачакацца юбілею 35-годдзя дзейнасці. Вельмі ўрачыста адзначаўся ён 18 лістапада ў Гайнаўскім доме культуры з удзелам запрошаных гасцей і шматлікай публікі.**

— Хаця называюць нас Калектыў песні «Рэха пушчы», у сапраўднасці мы не калектыў песні, але хор. У нашым хоры, які дзейнічае пры Гайнаўскім доме культуры, выступае зараз 26 чалавек. Спяваем мы ў манеры хору, на 4 галасы і толькі пад акампанемент акардэонаў. Падчас фестывалю «Беларуская песня», у якім пастаянна прымаем удзел і дабіваемся поспехаў, таксама ацэньваюць нас у катэгорыі хароў, — удакладняе перад юбілейным мерапрыемствам дырыжор гайнаўскага хору «Рэха пушчы» Аліна Негярэвіч, якая з'яўляецца яго мастацкім кіраўніком з 2004 года. Здабыла яна вышэйшую музычную адукацыю ва Універсітэце ў Любліне і цяпер, між іншым, працуе настаўніцай Дзяржаўнай музычнай школы ў Бельску-Падляшскім і з'яўляецца адначасна мастацкім кіраўніком бельскіх «Курантаў».

Юбілейнае святкаванне адбылося ў канцэртнай зале Гайнаўскага дома культуры з удзелам шматлікай публікі, якая хор «Рэха пушчы» лічыць візітнай карткай Гайнаўкі, а яго візітнай карткай у сваю чаргу з'яўляецца песня «Белавежа», якую «Рэха пушчы» праспявала сабраным. Музыку да гэтага твора, на словы верша Віктара Шведа, скампанавала мастацкі кіраўнік хору Аліна Негярэвіч. Яна таксама склала музыку да песень на словы Віктара Шведа і Янкі Купалы, якія ўвайшлі ў рэпертуар гайнаўскага хору.

— Калі мы стварылі беларускі хор, мелі намер узмоцніць нацыянальную свядомасць нашых беларусаў. Думалі стрымліваць асіміляцыйныя працэсы і хацелі выступаць з беларускімі песнямі, каб жыхары Гайнаўкі і навакolля не саромеліся сваёй мовы. Пачыналі мы выступы з 15 спевакамі, а пазней бывала, што і па 40 чалавек спявала ў нашым хоры. Мы расслаўлялі Гайнаўку і наш рэгіён не толькі ў нашым ваяводстве і Польшчы, але і па-за межамі — у Эстоніі, Літве, Латвії, Чэхіі і Славакіі. Аднак найбольш разоў выступалі мы ў Беларусі, бо ажно 21 раз, — сказаў мне пяць гадоў таму назад адзін са стваральнікаў хору, былы настаўнік Гайнаўскага белліцэя Аляксей Харкевіч, які вёў хроніку хору. Колькасць выездаў у Беларусь, перш за ўсё ў Пружаны, за апошнія 5 гадоў павялічылася, але храніст, на жаль памёр і не дачакаў чарговага юбілею, таксама як і Зінаіда Гаўрылюк, якая нядаўна памерла. Памяць памерлых членаў хору сабраныя на святкаванні ўшанавалі хвілінай маўчання.



«Першае спатканне ў справе заснавання беларускага хору адбылося 11 чэрвеня 1982 года ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы», — запісаў у хроніцы Аляксей Харкевіч. Ажно да 15 сустрэчы рэпетыцыі праходзілі ў белліцэі, але калі колькасць членаў хору пабольшала, рэпетыцыі з верасня 1982 года сталі адбывацца ў Гайнаўскім доме культуры. За 35 гадоў дзейнасці гайнаўскі хор выступіў больш за 600 разоў, а займалася ў ім больш за 100 чалавек.

— Мы лічым наш хор беларускім і сёння апрача песні «Белавежа» будзем спяваць беларускія народныя песні і творы сучасных беларускіх аўтараў на беларускай мове ў маёй музычнай апрацоўцы. У рэпертуары цяперашняга складу хору ёсць польскія (дзве заспявалі падчас святкавання, — А. М.) і расійскія песні. Спяваем песню на ўкраінскай мове. Развучылі мы іх дзеля прэзентавання пры адпаведных нагодах. Як на магчымасці спевакоў без музычнай адукацыі, наш хор прэзентуецца на прыстойным музычным узроўні, — сказала дырыжор Аліна Негярэвіч.

Харысты, якім акампанемент на акардэонах саставілі Мікола Сідарук і Юры Шарко, цікава запрэзентаваліся падчас юбілейнага канцэрта ў двух наборах прыгожых касцюмаў. Мерапрыемства вяла і распавядала пра хор і яго дзейнасць Барбара Вашчэнка. Публіка вельмі горача ўспрымала выступы юбіляраў. Афіцыйныя госці не шкадавалі спевакам цёплых слоў, віншавалі іх з юбілеем, уручалі ганаровыя граматы, віншавальныя лісты, кветкі і падарункі. Міністр культуры і нацыянальнай спадчыны РП Пётр Глінскі ўзнагародзіў 8 гайнаўскіх спевакоў адзнакамі «Заслужаны для польскай культуры», якія ўручылі дырэктар Дэпартамента фінансаў Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны Войцех Квяткоўскі і бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак. Бургамістр уручыў хору «Рэха пушчы» чэк вартасцю ў дзесяць тысяч злотых. Ліст ад маршалка Падляшскага ваяводства Ежы Ляшчынскага зачытаў ваяводскі радны з Гайнаўкі Генрык Лукашэвіч, а грашовы падарунак (дзве тысячы злотых) перадаў дырэктар Дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы ў Беластоку Анатоль Вап. Грашовыя падарункі перадалі таксама гайнаўскі стараста Міраслаў Раманюк і намеснік старшыні Галоўнага праўлення БГКТ Васіль Сегень (у зале прысутны быў таксама старшыня БГКТ Ян Сычэўскі). Падарункі перадавалі таксама войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч і былая войт гэтай гміны Вольга Рыгаровіч, войт Нарваўскай гміны Андрэй Пляскові, войт Чаромхаўскай гміны Міхал Врублеўскі. Віншаванні ад пасла РБ у Польшчы Аляксандра Авяр'янава зачытаў Міхаіл Рыбакоў, дырэктар Культурнага цэнтра РБ у Варшаве і перадаў падарунак ад дыпламатаў РБ у Польшчы. Быў зачытаны ліст ад пасла Сейма РП Мечыслава Башко. Ліст ад ваяводскага раднага Уладзіміра Пятрочука зачытаў намеснік бургамістра Гайнаўкі Андрэй Скепка, які віншаваў хор таксама як былы дырэктар ГДК. Віншаванні і падарункі перадалі таксама дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч і працаўнікі гэтай установы.

Якраз дзесяць гадоў таму хор атрымаў афіцыйную назву Калектыў песні «Рэха пушчы», а яго апекунамі былі абраны Ала Грыц і Леанард Кульваноўскі, якія цяпер выступілі з адмысловымі пажаданнямі і ўручылі падарункі. Віншаванні і падарункі з Пружан перадала галоўны спецыяліст аддзела культуры Пружанскга раённага выканаўчага камітэта Таццяна Ярошка. Сярод сабраных былі благачынны гайнаўскай акругі, мітрафорны протаіерэй Міхаіл Негярэвіч і настаяцель прыхода Нараджэння Іаана Хрысціцеля протаіерэй Ян Раманчук, прадстаўнікі беларускіх калектываў і асяродкаў культуры, з якімі гайнаўскі хор супрацоўнічае, гарадскія радныя і кіраўнікі культурных і адукацыйных устаноў, якія таксама віншавалі юбіляраў і ўручылі падарункі. Сярод іх быў дырэктар Гайнаўскага белліцэя Ігар Лукашук, якога бацька Аляксандр Лукашук быў першым дырыжорам гайнаўскага беларускага хору і якога найстарэйшыя спевакі вельмі цёпла ўспаміналі.

У мінулым гайнаўскі хор атрымаў калектыўную адзнаку «Заслужаны Беласточчыне» і Ганаровы дыплом Міністра культуры і мастацтва. Міністр культуры і нацыянальнай спадчыны Багдан Здраеўскі ўзнагародзіў гайнаўскі калектыў сярэбраным медалём Заслужаны для культуры «Gloria Artis», а спевакі, якія найдаўжэй выступалі, атрымалі тады ад міністра культуры індывідуальныя ганаровыя адзнакі «Заслужаны для польскай культуры».

Падмену гайнаўскім харыстам падчас юбілейнага канцэрта давалі на сцэне мужчынскі хор «Куранты» з Бельска-Падляшскага, якога мастацкім кіраўніком таксама з'яўляецца Аліна Негярэвіч, «Студыя песні ГДК», калектыў народнага танца ГДК «Перапёлка» і, канешне, хор народнай песні «Вербніца» з Пружан, з якім «Рэха пушчы» пастаянна супрацоўнічае.

— Я цешуся, што ёсць ахвотныя спяваць па-беларуску і да хору ўступілі маладыя асобы. Гэта дае надзею, што малодшыя асобы будуць падмяняць старэйшых спевакоў і наш хор будзе дзейнічаць яшчэ доўга, — сказала Аліна Негярэвіч.

У хоры «Рэха пушчы» ад пачатку яго заснавання спявае толькі Марыя Сапяжынская, а Міхал Тарасюк уступіў у хор толькі пасля некалькіх гадоў яго дзейнасці.

— Калі стварыўся хор мы былі маладымі, хацелася нам спяваць і выступаць на сцэне перад публікай. Адзін раз здарылася нават, што мы спявалі ў трох вёсках у адзін дзень. Яшчэ і цяпер хочацца мне спяваць. Паколькі нам, старэйшым харыстам, на падмену прыходзяць малодшыя, наш хор павінен дзейнічаць доўга, — адзначыла Марыя Сапяжынская.

— Хор пры першым дырыжоры Аляксандру Лукашуку быў шматлюдным, выступаў на высокім узроўні і складана было ў яго трапіць. Мне ўдалося дабіцца гэтага за другім разам і я быў вельмі рады, што буду спяваць у вялікім гайнаўскім хоры, які ўжо тады лічыўся выдатным выканаўцам беларускіх песень, — гаварыў Міхал Тарасюк, які на рэпетыцыі ў Гайнаўку прыязджае з Чыжоў.

— Я ў хоры тры гады. Знайшла я тут сваё месца, бо люблю спяваць. Мне, настаўніцы беларускай мовы, вельмі блізкая беларуская песня і беларуская культура, якую мы прапагандуем з нашым хорам, — заявіла Анна Франкоўская.

У хоры дзевяць гадоў спявае Вера Масайла, якая сама ў ГДК вядзе тэатральнавакальны калектыў «Званкі», у рэпертуары якога маюцца прадстаўленні і песні на беларускай мове. У хоры і калектыве мае яна магчымасць праяўляць сваю актыўнасць на беларускай ніве. Была вельмі рада, што разам з іншымі вылучанымі спевакамі атрымала ад міністра культуры і нацыянальнай спадчыны адзнаку «Заслужаны для польскай культуры».

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Прыйдзеш, а крама закрыта

Зараз жыхарам некаторых вёсак Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета асабліва цяжка дажываць свой век. Жывуць у іх пераважна старэйшыя людзі, якія ўжо не шукаюць нагоды, каб адсюль выехаць. Яны — так ужо кожнаму наканавана — чакаюць, калі прыйдзе той час і паміраюць. Вёскі хутка абязлюджваюцца.

Некаторых састарэлых дзеці забіраюць у горад — у Гайнаўку або ў Беласток на зіму або і беспаваротна. Гэтак ёсць — гэта мне добра вядома — між іншым, у Новым Ляўкове і ў Плянце. Бездапаможных і хворых ужо ў пачатку лістапада забралі. А калі неўзабаве сыпне снег і ўдарыць мароз, забяруць яшчэ і тых не зусім бяссільных. Яны ніяк не хочуць пакінуць нават на кароткі час сваю вёску, свой абжыты драўляны або мураваны дом, панадворак і прыдамашні агародчык. Яны ім найдаражэйшыя і наймілейшыя.

Зараз з вёсак Новае Ляўкова і Плянта не даедзеце ніякім аўтобусам — ні ПКС, ні прыватным — непасрэдна ў Беласток. Гмінны кааператыў у Нараўцы беспаваротна закрыў краму ў Новым Ляўкове. У краме ГС у Плянце працуе адна прадаўшчыца. У лістападзе гэтага года жыхары Новага Ляўкова і Плянты пачалі наракаць, што прыходзяць, а крама часта закрыта. Чаму? Прадаўшчыца ў водпуску. Водпуск ёй жа належыцца. Можа яна не прыйсці на працу, калі захварэе. Вядома, можа. Можа яе не быць на працы ў краме па розных іншых прычынах. Пакупнік прыйдзе, а крама закрыта. Іншыя прадуктовыя крамы ёсць у Нараўцы або ў Старым Ляўкове — адгэтуль, што там, 3-4 кіламетры. Вось табе на.

Зараз тую ці іншую газету ў Нараўчанскай гміне можна купіць найбліжэй тольк і ў Нараўцы. Ну можна ехаць сабе ў горад Гайнаўку (гэта адсюль раптам 20-25 кіламетраў). На наш беларускі штотыднёвік «Ніва» найлепш зрабіць падпіску ў лістаноша. Я некаторым пастаянным чытачам з Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Новін і з Плянты прывожу яе з Нараўкі. Кожны тыдзень. І таму прывозяць «Ніву» у нараўчанскія крамы ГС, у краму «Аргелян» і на пошту, бо тут яе купляюць. Інакш не прывозілі б. Прыватныя крамы прадаваць газет і часопісаў не хочуць.

Па жывыя кветкі трэба ехаць у Нараўку або ў Гайнаўку, бо ў Нараўцы ўсяго адзін кветкавы магазін на ўсю гміну. Нялёгка нам жывецца. Не рамантуюць як след нават ваяводскую дарогу з Навасадаў Гайнаўскай гміны ў Юшкаў Груд цераз Нараўку, Плянту і Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны. Зараз шмат выбоін, між іншым, у асфальтавай маставой у вёсцы Плянта. Небяспечна ехаць на роварах. Аўтамашыны ездзяць сяк-так сярэдзінай дарогі. У вёсцы тры паваароты і чыгуначны пераезд. Рух самаходаў тут даволі вялікі.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

# „Залатыя вяселлі" ў Міхалове

Нядаўна ў Гарадской управе ў Міхалове Беластоцкага павета бургамістр Міхалова Уладзімір Кананчук, старшыня Гарадской рады Ірэна Супрун і загадчыца ЗАГСа Агнешка Анціпюк уручылі медалі „За шматгадовае шлюбнае жыццё", прысвоеныя прэзідэнтам РП, шасці парам з Міхалоўскай гміны. Атрымалі іх Галіна і Юзэф Рошчанкі, Зіна і Мікалай Аўсейчукі, Ніна і Аляксей Макарэвічы, Лілія і Ян Кулешы, Галіна і Генрык Коркузы ды Марыя і Люцыян Брумеры. **(яц)**

Фота Аляксандра Вярбіцкага



# Захаваць памяць аб арлянскіх яўрэях

■ Арлянскі кіркут

**Орля — колішняе мястэчка — ганарыцца сваім мінулым, прынамсі калі ідзе пра ўшаноўванне — ад некалькіх гадоў — памяці памардаваных гітлераўцамі яўрэйскіх жыхароў Орлі.**

У Орлі яўрэйская гміна — кагал — узнікла на зломе XVI і XVII стагоддзяў. Паводле перапісу ад 1616 года было ў мястэчку 17 яўрэйскіх дамоў і першая драўляная бажніца. У 1655 годзе ў Орлі жыло 540 яўрэяў, у 1676 годзе на агульны лік 29 жыхароў было 104 яўрэі, а ў 1716 годзе — 103. У 1847 годзе арлянскі кагал налічваў 4436 вернікаў, у 1878 годзе — 1812, у 1897 годзе — 2310, у 1921 годзе на 1518 жыхароў было 1167 яўрэяў, у 1939—1450, а ў 1941 годзе каля дзвюх тысяч яўрэяў.

Яўрэі жылі ў Орлі на працягу некалькіх стагоддзяў. Былі яны не толькі рухавіком развіцця мястэчка, але і стрыжнем ягонай экзістэнцыі. Сёння ад багатага яўрэйскага мінулага асталася выдатная сінагога (усё руйнаваная ў выніку незакончанага рамонту) і неабноўлены кіркут. Асталіся таксама яўрэйскія будынкі, большасць з якіх зараз у прыватным уладанні.

У пачатку лістапада 1942 года ўзброеныя гітлераўцы акружылі гета ў Орлі. Паводле ўспамінаў Зінаіды Нядзельскай з Орлі, 4 лістапада (акурат у свята Казанскай іконы Божай Маці) раніцай адбылося прымусовае высяленне на фурманках


Фота Аляксандра Вярбіцкага
■ Фрагмент мемарыяла ў Трэблінцы

і пяшком у Бельск-Падляшскі каля дзвюх тысяч яўрэяў. Паводле гісторыка Збігнева Раманюка, яўрэяў перавезлі чыгункай у малыя казармы 10 палка ўланаў у Беласток. У наступных днях былі яны пабіты ў лагеры смерці ў Трэблінцы.

Ад некалькіх гадоў арлянскі Гмінны асяродак культуры ўшаноўвае памяць яўрэяў, ладзячы адмысловыя мерапрыемствы. 3 лістапада 2017 года ў арлянскай сінагозе адбылася ўрачыстасць ушанавання 75 гадавіны знішчэння арлянскіх яўрэяў.

Мерапрыемства пачалося са спектакля дзейнічаючай пры ГАК тэатральнай групы «Корнікі» пад загалоўкам «1942». Далей быў даклад Эвы Маркоўскай пра тыкоцінскі кагал. Затым адбылася прэзентацыя фрагмента фільма «Zielone Pola». У ходзе мерапрыемства была адкрыта пленэрная выстава (вялікафарматныя плакаты былі развешаны на агароджы дзіцячага парка ўжо некалькі дзён раней) «Мы, жыды, прыбылі ў Тыкоцін перад вякамі».

Пасля ўсе падаліся на кіркут, дзе былі зачытаны прозвішчы жыдоў, якія загінулі ў Трэблінцы (дакладней — каля дзесяціны, пра якія ўдалося даведацца з ізраільскага інтэрнэтнага партала), а ўздоўж кіркута на часовых слупках была замацавана белая стужка з напісанымі на ёй тымі ж самымі прозвішчамі.

Усё мерапрыемства вёў Дарыюш Шада-Бажышкоўскі з Беластока. Прысутнічалі сакратар гміны Ірэна Адзіевіч, старшыня Гміннай рады Аляксандр Клін, дырэктар Пачатковай школы Марыя Томчук, паявтовы радны Міраслаў Бало, некаторыя настаўнікі і вучні ды крыху жыхароў гміны.

* * *

У Орлі амаль няма ўжо жыхароў, якія былі суседзямі яўрэяў. Але памяць аб яўрэях памалу адраджаецца ў малодшых пакаленнях. Орлю наведваюць, асабліва сінагогу, турысты, у тым ліку і жыды з розных частак свету. Напэўна ўзорам для Орлі сталі такія гміны як Тыкоцін, Нараўка ці Белавежа. Мабыць, за прыкладам Орлі пойдуць дамы культуры ў іншых гмінах.

Аднак веды пра яўрэяў трэба яшчэ дапрацаваць і ўніфікаваць. Я зараз інтэнсіўна працую над кніжкай па гэтай тэме. Спадзяюся, што за год выйдзе чарговая мая кніжка аб сапраўднай гісторыі.

Міхал МІНЦЭВІЧ

# Гарадскі юбілей Орлі

Орлі на Падляшшы ў 2017 годзе пяцьсот дзесяць гадоў, з ліку якіх каля трохсот была яна горадам. Першыя весткі пра Орлю датуюцца пачаткам XVI стагоддзя. У 1507 годзе кароль прысвоіў Орлю троцкаму ваяводу Яську Іванавічу, а пасля шляхам сямейных парадненняў апынулася яна ў руках, м.інш. Багавітыновічаў, Тэнчынскіх герба Тапор (адсюль выява тапара ў гербе Орлі), Алелькавічаў, Радзівілаў, Браніцкіх, Вітгенштэйнаў.

Найбольшага росквіту дасягнула Орля пад панаваннем Радзівілаў. У 1622 годзе тут узвялі абарончы замак (знішчаны ў час шведскіх войнаў); месціўся ён у ваколіцах сённяшняй вуліцы Бельскай. Хрыстафор Радзівіл у 1634 годзе, па просьбе арлянскіх мяшчан, пацвердзіў прывілею, пашыраючы яе новымі правіламі. У тым жа годзе надаў гораду герб з выявай чорнага арла ў чырвоным полі, каранаванага княжацкай мітрай з крыжам, які ў правай лапе трымае тапор.

У палове XVII стагоддзя ў Орлі была ўніяцкая царква, кальвінісцкі збор, жылі тут таксама католікі; у канцы стагоддзя кальвінізм страціў сваё значэнне. Орля значна пацярпела ў час шведскіх войнаў 1655-1657 гг., а шмат прыхільнікаў кальвінізму, згуртаваных вакол Радзівілаў, загінула ў баях. Будынак збору ў пачатку наступнага стагоддзя выкупілі яўрэі дзеля пераўтварэння яго ў сінагогу (некаторыя гісторыкі гэты выкуп аспрэчваюць).

Рухавіком развіцця Орлі былі яўрэі, якія цягам двух стагоддзяў складалі большасць яе жыхароў. У канцы XIX стагоддзя Орля страціла гарадскі статус. Сёння Орля — сядзіба гміны.

У апошні час Орля зноў стала заможнай. У 2012 годзе ў гміннай казне прыход склаў амаль тры з паловай тысячы на аднаго жыхара, што дало 45-е месца ў ліку 1571 самаўрадавай адзінкі ў Польшчы. У 2006 годзе Орля па гэтым паказальніку займала 1396-е месца, у 2009 годзе — 933-е, у 2011 годзе — 423-е. Гэта найхутчэйшы рост заможнасці ў маштабе краіны. Сталася так у выніку пабудовы прадпрыемства групы IKEA і падаткаў, якія паступаюць у гмінную казну. Гэты аб'ект быў прызнаны найбуйнейшай замежнай інвестыцыяй у Польшчы ў 2010 годзе. У ацэнцы прагрэсу вясковых гмін у 2010-2014 гг. Орля апынулася на 12-м месцы ў краіне ў катэгорыі „фінансавы поспех"; у 2002-2006 гг. гэта было 1120-е месца, у 2006-2010-155-е.

У снежні 2015 года завершана будова ветравой фермы з 15 ветравымі турбінамі агульнай магутнасцю ў 37,5 мегавата. І гэта не ўсё, бо існуе магчымасць пабудовы чарговай ветравой фермы з трыма турбінамі; з такой прапановай да арлянскага войта выступіла ў верасні г.г. фірма Vortex Energy, ветракі стаялі б за Орляй у бок Чорнага лесу — Рудутаў. Vortex Energy піша: Dodatkowo przeprowadzone przez nas analizy planistyczne potwierdziły, że na terenie Państwa Gminy znajdują się obszary, na których możliwa jest lokalizacja elektrowni wiatrowych z zachowaniem wymogów nałożonych tzw. ustawą odległościową, mówiącą o tym, że turbina wiatrowa musi być oddalona od najbliższych zabudowań o odległość minimalną równą 10-krotności jej wysokości wraz z wirnikiem i łopatami.

Па-новаму, найбліжэй ад будынкаў ветракі могуць стаяць паўтара кіламетра, калі іх агульная вышыня 150 метраў. Зараз дасюлешнія ветракі стаяць найбліжэй Спічкоў — у адлегласці 570 метраў, згодна ранейшаму закону. У Арлянскай гміне не было дагэтуль пратэстаў супраць стаўлення ветракоў, тым больш і зараз іх не будзе.

Я часта чую дакоры, што Арлянская гміна багатая. Аднак у народзе ходзіць прымаўка: „А хто каму бароніць быць багатым?" Няхай, для прыкладу, будуюць ветравыя фермы. А то не будуюць, а быццам зайздросцяць...

Міхал МІНЦЭВІЧ

# Магін і дэ Куртэнэ
## альбо Пра абаронцаў моўнай самабытнасці



Ільля Магін

У 2018 адзначаем сотую гадавіну польскай незалежнасці. Ужо рыхтуюцца новыя пашпарты з выбранымі грамадствам 13 выявамі сімвалаў знамянальнай падзеі. Сярод іх няма, на жаль, майго любімага чалавека-сімвала тых часоў прафесара Яна Неціслава Бадуэн дэ Куртэнэ. У пашпартным спаборніцтве прайграў, між іншым, з Нарутовічам, Вострай Брамай, Пілсудскім і шмат з чым яшчэ. Прайграў і славутыя прэзідэнцкія выбары 1922 года. Хаця яго даследчык і паслядоўнік Ілья Магін з Санкт-Пецярбурга ўпарта сцвярджае, што Бадуэн папросту зняў сваю кандыдатуру. Пашпарта з Бадуэнам ніколі не дачакаюся, але яго «charakterystyki, wypowiadane w stanie niepoczytalnym lub choćby tylko w uniesieniu, nie mogą być brane na seryjo i nikomu nie uwłaczają» (*O panu Andrzeju Niemojewskim słów kilka*, Kraków 1912) павесіла я на дзвярах школьнай бібліятэкі, у якой часова працую. На пазбаўленых самакантролю наведвальнікаў дзейнічаюць лепш, чым ікона, крыж і арол разам узятыя.

Часам задаю сабе пытанне, якім быў бы свет, калі б яго тады выбралі прэзідэнтам. Напэўна абышлося б без разбурэння соцень праваслаўных цэркваў, ладжання жыдоўскіх пагромаў і агрэсіўнай паланізацыі шматлікіх тады этнічных меншасцей. Пакуль не прыбралі б яго, так як і таго ж няшчаснага Нарутовіча.

Бадуэна ведаюць у свеце перш за ўсё як выдатнага рускага і польскага мовазнаўца, моўнага рэвалюцыянера, заснавальніка ўніверсітэцкіх лінгвістычных кафедраў, у тым ліку вядомай казанскай школы лінгвістаў. З'яўляецца вельмі важнай фігурай асабліва ў расейскай лінгвістыцы, нягледзячы на факт, што лічылі яго дзіваком, між іншым з-за друкавання кніжак ва ўласнай расейскай арфаграфіі.

Нарадзіўся ў 1845 г. у падваршаўскім Радзыміне як нашчадак польскай галіны старога французскага шляхецкага роду. Памёр у Варшаве ў 1929 г., два гады пасля выступлення з шэрагаў Каталіцкага касцёла. «Dawno już pozbyłem się wszelkich przesądów narodowych i wyznaniowych, a należąc do pogardzanej przez wielu kategorii ludzi bez wiary i bez narodowości nie robię żadnej różnicy pomiędzy rozmaitemi narodowościami i innemi grupami społecznemi i traktuję je wszystkie zupełnie jednakowo i bezstronnie. Ale za to staję zawsze po stronie krzywdzonych i prześladowanych», — напісаў у брашуры *Ze zjazdu autonomistów czyli przedstawicieli narodowości nie-rosyjskich* (Kraków 1906).

Калісь распавёў мне пра яго сябра, няштатны польскі беларус з Саколкі Андрэй Гарбуз. Запрапанаваў заняцца песнямі з падсакольскіх, шляхецкіх Гарчакоў, запісанымі менавіта Бадуэнам у зборніку «Pieśni białorusko-polskie z powiatu sokólskiego, guberni grodzieńskiej» (Kraków 1892). Цяпер спяваюць іх дзеці з крынскай «Заранкі». Амаль кожны іх канцэрт пачынаю з некалькіх слоў пра вялікага навукоўца, адданага абаронцу меншасцей і цэлага чалавецтва.

Лінгвістычныя кніжкі Бадуэна аказаліся мне надта складанымі, у гістарычнай літаратуры звестак пра яго не знайшла я шмат, мабыць, не ведала, дзе іх шукаць. Вялікі прафесар доўгі час заставаўся для мяне напаўфантастычным персанажам, пакуль не паявіўся чарговы кантакт — пецярбургскі лінгвіст, пісьменнік і перакладчык Ілья Магін.

— У вас шмат супольнага, — сцвердзіла я па некалькіх днях нашага знаёмства

— Не, ён быў геній, а я просты вучань, але ён першы пачаў цікавіцца праблемамі моўных кантактаў у шматмоўных рэгіёнах, якімі я таксама займаюся, — сціпла адказаў мой субяседнік. — У ХІХ стагоддзі ніхто не звяртаў увагі на ідыш, не лічыў яго мовай, а толькі сапсаванай нямецкай мовай. Ён першы запратэставаў:

«Nienawiść do jakiegokolwiek bądź języka jest przeżytkiem stanu dzikości, jest przeniesieniem osobliwego fanatyzmu religijnego do dziedziny nowoczesnego spółżycia» (Ze zjazdu...).

«Mnie nie można posądzać o «filosemityzm», ja bowiem nie kocham i nie miłuję żadnych stad ludzkich», — тлумачыў сваё становішча вялікі прафесар (O panu Andrzeju Niemojewskim...)

«Istotnie nie uznaję praw narodów, gdyż takich realności nie znam. Znam realności psychiczne, indywidualne, znam godność ludzką indywidualną, a fikcje zwane państwami uważam za malum necessarium, za siły wyższe, z którymi trzeba się liczyć walcząc o swoje prawa ludzkie do narodowości, do wolności sumienia (O panu Andrzeju Niemojewskim). Гэтыя словы гавораць самі за сябе.

Ілья Магін настолькі захапіўся мовазнаўчым майстэрствам Бадуэна, што пераклаў з польскай на расейскую мову яго «Poradnik dla samouków», выдадзены ў Варшаве ў 1909 г. Калі ідзе пра палітычную дзейнасць прафесара, рассакрэціў яе яшчэ падчас вучобы на сваім родным пецярбургскім універсітэце. Нядаўна даслаў мне свой любімы «Национальный и территориальный признак в автономии», які асабіста змясціў у інтэрнэтных амерыканскіх архівах пяць гадоў таму назад. Яго галоўная ідэя — кожная нацыя, а нават рэгіянальная ідэнтычнасць мае права на незалежнасць. Дастаткова аб'ёмісты тэкст пачынаецца з заўвагі пра немагчымыя «всякие попытки общественной деятельности всякие поползновения на выход из состояния бессмысленного стада, руководствующегося единственно эгоистическими побуждениями шкурного характера и страхом перед палкою и кнутом пастуха». Надрукавана на кошт аўтара ў 1913 г. у пецярбургскім выдавецтве Стасюлевіча. У выніку Бадуэна зачыняюць у Петрапаўлаўскай крэпасці. Не просіць памілавання ў дзядзькі імператара, але просяць іншыя. Неўзабаве пакідае турму, а заадно і ўніверсітэт.

Адважна крытыкаваў так расейскую, як і польскую палітыку. Яго словы: «Megalomania państwowa jest największym nieszczęściem, prowadzącym przede wszystkim do zguby samego państwa» (Ze zjazdu...) паражаюць актуальнасцю.

У такім выпадку ёсць толькі адзін патунак: «Należałoby dążyć do stworzenia żywego dowodu, że i w państwie, i na terytorium autonomicznem, i w gminie, i w mieście, i w jednym domu możliwem jest spokojne współżycie rozmaitych narodowości i innych grup społecznych».

Адным словам: «Polska dla wszystkich tych, kto w niej mieszka».

Ці верыў у лепшае заўтра? «My pracujemy dla przyszłości, a na samych siebie patrzymy jako na nawóz dla naszych potomków. Może kiedyś na uprawianych naszą pracą polach coś wyrośnie» (Ze zjazdu autonomistów..)

Іаанна ЧАБАН

## Мая сяброўка — песня

Калі чалавеку прыходзіцца дажываць старасці ў адзіноцтве, дык шукае брацкай душы, з якою раздзяляў бы радасці і журботы, ды адкрываў сэрца ў любы час. Калі такой не знойдзем, дык пападаем у дэпрэсію. Шукаем паратунку ў чарцы спіртнога або іншай гадасці. Я знайшоў выхад. Пасябраваў з... песняй. А што з маладосці захапаўся ў мяне рыса рамантычнага летуценніка, дык вольны час праводжу пры камп'ютары, слухаючы песень. Разумеецца, рамантычных, любоўных. Ажываюць тады ўспаміны з маладосці, з юнацкіх гадоў. Нездарма кажуць, што музыка робіць больш лагоднымі звычаі. І гэта праўда. Слухаючы песень, гэтых па душы, чалавек забываецца аб усім.

*Нам песня строить и жить помогает,*
*она как друг и зовёт, и ведёт,*
*и тот, кто з песней по жизни шагает,*
*тот никогда и нигде не пропадёт.*

Гэта словы вядомай савецкай песні. Польскі паэт Цыпрыян Каміль Норвід пісаў: «Ідзі туды, дзе чуеш спеў. Там людзі сэрца маюць. Злыя людзі павер мне — ніколі не спяваюць».

Ці не варта, затым, памарыць аб чымсьці прыемным? А што можа быць больш прыемнае ад кахання, любові? У Святым пісанні напамінаецца: «Любіце друг друга». І каб мы, зямельныя грэшнікі, прытрымваліся Свяшчэннага пісання, жыццё было б намнога прыемнейшым. Пакарыстаюся яшчэ адной «залатой думкай»: «Жыццё было б цудоўным, калі б людзі займаліся выключна сабою і дбалі выключна за свае справы». Ці не так?

А вяртаючыся да песні. Адкрыў я нядаўна крыніцу цудоўных музычных праграм на тэлеканале TVS — у кожную нядзелю а 20:00 «Шлягерова ліста TVS», затым «Канцэрт пажаданняў» і «Зайграем для вас». Тры гадзіны цудоўнай музыкі, любоўнай, разумеецца. І спаць не хочацца, хоць гадзіннік паказвае 00:45. І жыць хочацца нават 77-гадоваму адзінокаму старэчы.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Кветкі
### кожнага дня

Івона Езёрэк марыла мець вакол сябе многа кветак, кожнага дня. Таму яна, між іншым, мае свой кветкавы магазін у Нараўцы (пры вуліцы Гайнаўскай). Ён адзіны ў Нараўчанскай гміне. Сюды часта прыходзяць жанчыны. Хто як хто, а яны любяць кветкі. Маюць іх у сваіх кватэрах круглы год. Любяць, калі ім дараць кветкі мужчыны. Кветкі зблiжаюць людзей, папраўляюць настрой. Яны спадарожнічаюць нам у розныя жыццёвыя моманты — радасныя і сумныя.

Спадарыня Івона трэці год паспяхова вядзе кветкавы магазін . У пачатку лістапада гэтага года змяніла ранейшае памяшканне на больш прытульнае ды з вялікім акном. Упрыгожыла акно і сцены. Зімой будзе ў ім — што важна — цёпла, пачне дзейнічаць г.зв. цэнтральнае абагрыванне.

Кветак у яе магазіне столькі, што можна выбіраць. Тут чырвоныя і жоўтыя ружы, чырвоныя гваздзікі, герберы, фрэзіі, маргарыткі, пахучыя лілії і іншыя з экзатычнымі назвамі цудоўныя расліны. Ёсць у продажы жывыя і штучныя кветкі. У вялікіх і малых гліняных і пластмасавых пасудзінах для вазонаў ёсць ятрышнікі і бягоніі. Тут можна купіць гатовыя або на заказ вянкі і букеты кветак з упрыгажэннем.

З кветкавых магазінаў у Беластоку нараўчанская кветачніца прывозіць сваім пакупнікам кветкі, а таксама розных відаў пладаносныя і дэкаратыўныя кусты і дрэўцы.

**(яц)**

зорка
для дзяцей і моладзі



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Абрад і гульні



Моладзь і дзеці, якія вывучаюць беларускую мову, моцна адзначылі свой удзел у XIV аглядзе «Абрад на сцэне», арганізаваным Беларускім таварыствам. Часам з імі выступалі старэйшыя сябры, узросту нават іхніх дзядуляў, як у калектыве «Антракт» з Бельска-Падляшскага («Перад выездам да шлюбу»). Побач вусатага дзеда Уладзіміра і яго сяброў з хору «Васілёчкі», што адыгрываў ролю свата, прымала ўдзел у пастаноўцы першакласніца Таіса з сяброўкамі. Для кожнага знайшла ролю пані Эля Фіёнік на каляровым беларускім вяселлі, якое захапіла гледачоў! Гледачы, у большасці нашмат старэйшыя ад малечаў, вельмі цешыліся, што маладое пакаленне падтрымлівае нашу традыцыю пад кіраўніцтвам мастакоў, якія ўжо доўгі час і плённа працуюць з моладдзю, часта самі пішуць сцэнарыі і п'ескі. Гэта пані Вера Масайла, якая прывезла з Гайнаўкі калектыў «Званкі», пані Лідзія Мартынюк з Рыбалаў, што падрыхтавала калектыў «Ластаўка» («Дзіцячыя гульні») ці пані Ніна Абрамюк з Нарвы, якой вучні паказалі сцэнку «Як Яшка стаў чалавекам». На цікавага акцёра вырастае Міхась Тапалянскі з Трасцянкі, які не першы раз прымае ўдзел у нарваўскіх сцэнках — ён тут сыграў Яшку-лодыра, які, дзякуючы жонцы, стане прыстойным мужам і гаспадаром. А ў гайнаўскай п'есцы «Як тут не верыць у шаптух?» выдатна з дзвюма ролямі справіўся Давід Ціханюк. Малайчыны! Тут адзначыць трэба, што такая сцэнка з'яўляецца працай не аднаго акцёра, а калектыву, які выступае, рыхтуе сцэнічнае афармленне, музыку. І пасля так выдатна і весела запаланяюць сцэну і глядзельную залу як «Жэўжыкі» з бельскай «тройкі» («Каравай»), пад кіраўніцтвам рані Ганны Фіёнік.

— Вядучы дае падказкі, а акцёры развіваюць тое, што хочуць паказаць, — кажа пані Лідзія Мартынюк з Рыбалаў. Яе чатыры акцёркі цудоўна і дынамічна паказалі гульні, у якія гулялі калісь дзеткі ў беларускіх вёсках, затанцавалі ды заспявалі песні. Весела, з усмешкай. — Тая ўсмешка — неабходная. Гэта ж такая радасць — іграць!

— Просім не сумаваць. Хай вашы вочы шчасцем свецяцца... — заахвочвае «ластавачка». — А калі сярод дзяцей паявіцца музыкант, тады пайшлі ў танцы. Адзін з папулярных танцаў — свінні ў рэпе... — І разварушаная і ўзрушаная публіка ўспамінае як калісь гулялася і святкавалася...

**Міра ЛУКША**



# Адкуль ваўкі?

*(з беларускай міфалогіі)*

Засталіся дробныя сіроты ад бацькі, маці. Некаму было карміць іх, некаму даглядаць. Не было сіроткам дзе падзецца. Тады Бог зжаліўся над імі і прыдумаў ваўкоў. А раней дабытак хадзіў без пастуха, самапасам. Ну і ваўкі сталі жывёлу атакаваць, душыць. Дык людзі нанялі ў пастухі гэтых сіротак. Дзякуючы ваўкам, дзеці мелі яду і адзенне. А ваўкі прэч пайшлі з таго месца...

*(гак)*

# УВАГА КОНКУРС! № 49-17

**Месца ёсць у той калонцы**
**Хмарам, сонейку, вясёлцы.**
**Там аблокі, зоркі, месяц...**
**Хто яна, што столькі месціць?**
**з....**

**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 10 снежня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 46: мыла. Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі Магда Якубюк з Бельска-Падляшскага, Юстына Астапковіч, Наталля Гайдук з ПШ № 1 у Гайнаўцы, Антаніна Варанчук, Марыя Варанчук з Арэшкава. Віншуем!**

Ніл Гілевіч

## Белыя сыплюцца долу крышталікі

Белыя сыплюцца долу крышталікі,
Белыя крышацца хмаркі ўгары.
Сосны захутаны ў белыя шалікі.
Белая мітусь у белым бары.
Белая, мяккая ціша нехрусткая,
Белай дрымотай спавіты кусты.
Белая казка... Зіма беларуская...
Што ж мне не дорыш снягурачку ты?..

# Бягучы 2017 год — год Тадэвуша Касцюшкі

**З гэтай нагоды мы прысвяцілі ўжо некалькі артыкулаў Тадэвушу Касцюшку — герою Польшчы, Беларусі і Амерыкі. Сёння вашай увазе прапануем знакаміты нарыс Уладзіміра Арлова «Паўстанне Тадэвуша Касцюшкі».**

**Пачатак паўстання**

Збройнае змаганне за свабоду пачалося ў сакавіку 1794 года ў старажытнай сталіцы Польскага Каралеўства — Кракаве. Касцюшку абвясцілі начальнікам паўстання. Змагары захацелі выгнаць захопнікаў са сваёй зямлі і аднавіць незалежную Рэч Паспалітую ў яе ранейшых межах.

Неўзабаве ўзялася за зброю і Беларусь. У адну з красавіцкіх начэй паўстанцы вызвалілі ад расейскіх войскаў сталіцу Вялікага Княства Літоўскага Вільню.




Разам з іншымі змагарамі біліся з царскімі войскамі ўзброеныя косамі беларускія сяляне. Іх называлі касінерамі.

Паўстанцы спявалі «Песню беларускіх жаўнераў»:

*Помнім добра, што рабілі,*
*Як нас дзёрлі, як нас білі.*
*Докуль будзем так маўчаці?*
*Годзе нам сядзець у хаце!*
*Нашто землю нам забралі?*
*Пашто ў путы закавалі?*

*Дочкі, жонкі нам гвалцілі.*
*Трэ, каб мы ім заплацілі!*
*Коней нам пазаязджалі,*
*Што хацелі, то і бралі.*
*Пойдзем жыва да Касцюшкі,*
*Рубаць будзем маскалюшкі.*

Маскалюшкамі або маскалямі называлі звычайна расейскіх салдат-карнікаў.

Да паўстанцаў перайшла ўлада ў Горадні, Берасці, Навагрудку, Слоніме, Пінску, Ваўкавыску, Браславе, Лідзе, Ашмяне ды іншых беларускіх гарадах і мястэчках. У сярэдзіне траўня былі вызваленыя ўжо амаль усе землі Вялікага Княства.

*(працяг будзе)*

Алена ЦЕРАШКОВА

З
Заяц быў у заапарку
І да зебры зазірнуў.
Баяў ёй за казкай казку,
Замарыўся дый заснуў.
Зебра з зайцам побач спяць,
Казку ў сне яны глядзяць.

І
Ірынка ірыскі купіла
І моўчкі ў кішэні насіла.
Нікому пра іх не казала,
Дзяліцца ні з кім не жадала.
І толькі Ілюша ды Верка
З Ірынкай дзялілі цукеркі.

Й
Гэй, зайграй, мой Мацей,
Дый пацеш гасцей.
Заспявай, як зайкі
Скралі балалайкі!
Хай госцейкі скачуць,
Болей хай не плачуць,

К
Закарцела раз карове
Паабедаць кветкай новай.
Укалолася балюча:
Кактус смачны, ды калючы!
Трэба кніжку пачытаць,
Як той кактус гатаваць.

Л
Зайшла ў кавярню ласка,
Сказала: — Калі ласка,
Падайце мне салату,
Салянку і аладку,
Бутэльку ліманаду
І плітку шакаладу.

М
У Мароза мокры нос.
Змок ад снегу дзед Мароз.
У мяшку смакоцці шмат —
Карамель ды мармелад!
Развязаў... а мама кажа:
— Еш спачатку суп ды кашу!



Вікторыя ГОСЦІК
Саколе, КШ у Міхалове

**Злосць**

Калі я злосная,
Іду ў лес.
Калі я сумная,
Іду з сабакам на доўгі час.
Калі ўсё передумаю,
Калі розум да мяне прыйдзе,
Вяртаюся шчаслівая.

**Сябры**

Сапраўдны сябар будзе табе
ўсё гаварыць,
Сапраўдным сябрам будзеш і ты.
Пра ўсе смуткі і радасці гавары.
Любі і шануй сябра.
Бо гэта і ты!

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Капля мёду

У аднаго чалавека была крама і ён прадаваў мёд. Аднойчы на зямлю ўпала адна капля мёду. Зразу на яе села аса і пачала смактаць мядок. Тым часам прыбег кот і ўхапіў асу, а пасля прыбег сабака з другога сяла і задзёр ката. Ну гэтага чалавек ужо не перанёс і забіў сабаку.

Калі даведаўся пра гэта ўласнік сабакі, што яго любімчыка забіў гандляр, ён прыбег і забіў крамніка.

Між суседнімі вёскамі ўспыхнула вайна. Праз сёлы прайшло лютае пабоішча, ад якога ацалеў толькі адзін чалавек.

І ўсё гэта з-за каплі мёду.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

# Польска-беларуская крыжаванка № 49-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 45-17:**

Шум, суп, бой, ілгун, лісце, раз, лістапад, Ікар, шрам, кошык, ты, арак. Пік, ліст, спісак, строй, шпіца, лепшы, арка, бурда, зона, замак.

Узнагароды, кніжкі Віктара Шведа «Вясёлка», выйгралі **Аляксандра Бакун**, **Аляксандра Якімюк** з КШ № 1 у Гайнаўцы, **Тамаш Дэмянюк**, **Аляксандр Філіманюк**, **Юля Ваўтанюк**, **Дам'ян Карнілюк** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім, **Марыюш Красько**, **Марыя Варанчук** з Арэшкава, **Карнелія Вшэбароўская**, **Аліўка Жэпко** з Нарвы, **Клаўдзія Казлоўская**, **Габрыела Стоцкая** з Нараўкі. Віншуем!

Kwiat
Powiązka
Klasa
Racja
Kolega
Słowa
Łyko
Smok
Jagnię
Wiosło
Jabłko
Wzrok
Kakao
Jan
Jak
Ara
Ona

**Браніслаў Тарашкевіч (1892-1938)** несумненна ўпісаўся ў гістарычную памяць беларусаў. Яго імя здаўна (пасля рэабілітацыі ў 1957 г.) знаходзіцца ў беларускіх энцыклапедыях. Біяграмы ў беларускай і польскай „Вікіпедыі" сведчаць пра яго прысутнасць таксама ў віртуальнай прасторы. Менавіта беларуская „Вікіпедыя" звяртае ўвагу на тое, што Браніслаў Тарашкевіч быў беларускім грамадска-палітычным дзеячам, мовазнаўцам і пісьменнікам-перакладчыкам. У польскай „Вікіпедыі" прадстаўляецца яго ў першую чаргу як беларускага палітыка, дэпутата польскага Сейма, старшыню Беларускага пасольскага гуртка, старшыню Беларускай сялянска-работніцкай грамады, грамадскага дзеяча, мовазнаўцу, перакладчыка, аднаго са стваральнікаў арфаграфіі беларускай мовы. Паказваюць яны шматграннасць зацікаўленняў і заняткаў Браніслава Тарашкевіча.

Лена ГЛАГОЎСКАЯ

# Ад беларускай граматыкі да палітыкі — Браніслаў Тарашкевіч у гістарычнай памяці



На працягу 46 гадоў жыцця здолеў вызначыцца ў некалькіх сур'ёзных жыццёвых ролях, якія трывала ўпісаліся ў гістарычную памяць не толькі ў Беларусі, але і ў Польшчы, і ў Літве. Яго імем з 1972 г. названы вуліцы ў Радашковічах і ў Маладзечне, а з 2003 г. — у Мінску. 5 сакавіка 1969 г. пры дырэктарстве Міколы Гайдука яго імя было прысвоена Агульнаадукацыйнаму ліцэю з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім. Зараз, уваходзячы ў ліцэй, стаіць вялікі стэнд у гонар Б. Тарашкевіча з яго здымкам, гадамі жыцця, асноўнай інфармацыяй пра яго: „беларускі грамадскі дзеяч, вучоны, літаратар, перакладчык" і словамі з прамовы на судзе: „Народ беларускі прабудзіўся і нявольнікам ён не застанецца". На другім паверсе школы на калідоры знаходзіцца вялікі стэнд са здымкамі і інфармацыямі пра жыццё і дзейнасць Б. Тарашкевіча. Паводле слоў цяперашняга дырэктара ліцэя Андрэя Сцепанюка, інтэр'ер ліцэя быў абноўлены ў 2009 г. мастаком Міраславам Здрайкоўскім. У школьнай бібліятэцы знаходзяцца кнігі Аляксандры Бергман пра Б. Тарашкевіча на польскай мове. На ўроках беларускай мовы і гісторыі гаворыцца пра Б. Тарашкевіча і яго заслугі для беларусаў. Як сказаў дырэктар ліцэя Андрэй Сцепанюк, мусіць зараз найменш кажацца пра палітыку, а больш пра яго граматыку беларускай мовы, пра пераклады „Пана Тадэвуша" Адама Міцкевіча і „Іліяды" Гамера на беларускую мову, пра яго аратарскія здольнасці. А. Сцепанюк асабіста на прыкладзе абмену Б. Тарашкевіча на Францішка Аляхновіча гаворыць вучням пра страшны беларускі лёс.

Тарашкевічу прысвечаны табліцы на дамах, у якіх жыў у Радашковічах і ў Вільні. У 1972 г. на 80-я ўгодкі Б. Тарашкевіча ў Радашковічах на доме Сніткаў была адкрытая мемуарная дошка: «Тут у 1923-1931 гг. жыў і працаваў вядомы вучоны і палітычны дзеяч, актыўны ўдзельнік вызваленчага руху працоўных Заходняй Беларусі, акадэмік АН БССР Тарашкевіч Браніслаў Адамавіч». 27 верасня 1979 г. у Вільні на вуліцы Людаса Гіры, 37 (колішняя Віленская, 12) была адкрыта памятная табліца на літоўскай і беларускай мовах: «У гэтым доме ў гадах 1924-1926 жыў беларускі вучоны і педагог, выдатны дзеяч рэвалюцыйнага руху, член камуністычнай партыі ад 1925 года Браніслаў Адамавіч Тарашкевіч».

Несумненны беларускі палітычны лідар пасля I Сусветнай вайны, нават у сітуацыі стаўлення яго перад судом, быў параўноўваны публіцыстам Альбінам Стэповічам з Магатмам Гандзім, змагаром за правы індусаў: «Gdy był posłem sejmowym w poprzedniej kadencji, zwracał na siebie uwagę jako osobnik ruchliwy, ekspansywny, śmiały. (...) Na trybunie zwraca na siebie uwagę jako człowiek o manierach i wyglądzie Europejczyka. (...) Przemawia spokojnie i dużo, ale nie nużąco. Z postawy i tonu bije duma i wyniosłość. Nic w nim nie znać z oskarżonego. Odnosi się wrażenie, że nie zależy mu wcale na uniewinnieniu, gdyż mówi rzeczy, jak się wyraził obrońca, „niepopularne" dla sądu. Istotnie, twierdząc, że jest marksistą, kolektywistą, że „po tamtej stronie buduje się białoruski Dom", obronie sytuacji nie ułatwiał, mimo to kategorycznie neguje jakąkolwiek organizacyjną łączność z partią komunistyczną. Przyznaje się, że odrzucił ułaskawienie Prezydenta po wyroku Hromady, ponieważ nie objęło ono jego kolegów. (...) Taraszkiewicz ideę postawił wyżej wolności osobistej. Nie załamał się i dlatego w oczach swoich zwolenników, którzy mogli nieco powątpiewać o jego szczerości, urósł znacznie wyżej niż przedtem. Można twierdzić z całą pewnością, że Taraszkiewicz, mimo całej mglistości swej politycznej ideologii cieszy się dziś popularnością wśród wszystkich niemal Białorusinów i ma zwolenników bodaj znacznie więcej od najbardziej czołowych działaczy białoruskich. (...) Prawie wszyscy Białorusini stoją na stanowisku, że Białoruś w przyszłości musi stać się samodzielnym państwem. Ten postulat łączy wszystkich, natomiast wypisywanie na sztandarze haseł o formie ustroju przyszłej Białorusi od razu zaczyna różnić i rozpraszać jednolity front. Zdaje się, iż Taraszkiewicz zdaje sobie z tego sprawę i na pytanie sądu, jaki ma być ustrój przyszły Białorusi, uchylił się od odpowiedzi nie z obawy przed wygłoszeniem osobistych życzeń i poglądów, ograniczając się do uwagi, że o ustroju Białorusi zadecydują w przyszłości białoruskie masy chłopskie i robotnicze. Takie stanowisko należy uważać za trafne i zapewniające Taraszkiewiczowi wszechstronną popularność w kołach białoruskich. Nie ulega wątpliwości, że wyrok skazujący nie przekreśli roli Taraszkiewicza w ruchu białoruskim, podobnie jak trzymanie w więzieniu Gandhiego nie pomniejszyło jego wpływów i znaczenia wśród Hindusów".

Б. Тарашкевіч не ўсімі беларусамі ўспрымаўся спачувальна. Асаблівае стаўленне выказаў надаўні яго грамадоўскі паплечнік Фабіян Акінчыц у брашуры «Правакацыя беларускага народу (да справы б. старшыні Грамады Б. Тарашкевіча»: «Для беларускага нацыянальнага руху дрэнна ўжо тое, што ён сваёю папулярнасьцю, якую здабыў за часоў Грамады, сьведама вядзе яўна камуністычную працу, прыкрываючы яе нацыянальна-вызваленчаю фразэалёгіяю. (...) Легенда аб ягонай ідэёвасьці і нацыянальным гэраізьме павінна закончыцца назаўсёды». Брашура была ўспрынята адмоўна. Альбін Стэповіч, сам будучы хадэцкіх поглядаў, пісаў пра яе: «Ukazała się wprawdzie niedawno broszura napastliwa, charakteryzująca Taraszkiewicza jako zdecydowanego komunistę; zdaje się, że, wbrew intencjom autora, broszura ta w pewnej mierze ułatwiła Taraszkiewiczowi wyjazd do Sowietów. Był to jedyny jej efekt». Брашура пазней трапіла ў бібліятэчныя спецфонды і да 90-х гг. была недаступнай. Выйшла рэпрынтам у Мінску ў 1991 г. і ў адрозненні ад 1933 г. распаліла нанава эмоцыі вакол асобы Б. Тарашкевіча і яго ролі ў беларускім нацыянальным руху. Тым больш, што прарочымі аказаліся словы Ф. Акінчыца наконт будучыні Б. Тарашкевіча: «Мы не памылімся, калі скажам, што Тарашкевіч, будучы чалавекам слабавольным, «метнулся» у камуністычны бок дзякуючы шкадлівым уплывам «злых духаў» Беларускага народу, якія заселі ў Вільні і кіруюць адтуль усімі цёмнымі справамі праз падстаўленых людзей. Яны плянова і сыстэматычна губяць усе патрэбныя для беларускай справы адзінкі, якія толькі падпадаюць пад іхнія ўплывы і яны-ж зьяўляюцца галоўнымі вінавайцамі таго, што здарылася з Тарашкевічам і ягонымі таварышамі. Толькі дзякуючы гэтай акалічнасьці і сваяму ўласнаму бязвольлю Тарашкевіч, наперакор здароваму сэнсу цьвердзіць, што ўсе ягоныя сымпатыі там, дзе камуністы пабудавалі «Беларускі Дом...». Калі небудзь мы будзем сьведкамі таго, як ён апыніцца ў гэтым «доме» і загаспадаруе... Цяжка быць цяпер прарокам, але думаем, што ад ягонага выезду беларуская справа ў Польшчы нічога не страціць, а ў Савецкай Беларусі — нічога не прыбудзе. Магчыма й так, што Твshow Тарашкевіч сам, разам са сваімі таварышамі, пераканаецца, нарэшце, якімі фальшывымі шляхамі яны ішлі, шукаючы спосабаў вырашэньня беларускага пытаньня. Але будзе позна...».

Асаблівай папулярнасцю ў пачатку 90-х гадоў стаў карыстацца эпізод абмену палітычнымі вязнямі Браніслава Тарашкевіча і Францішка Аляхновіча ноччу з 6 на 7 верасня 1933 г. Упершыню пра той факт напісаў у „Пшэглёндзе Віленскім" Альбін Стэповіч: «Droga, którą przebył Taraszkiewicz w swojej działalności politycznej i poglądach jest ze wszech miar pouczającą. Od niefortunnej próby współpracy z Polakami, poprzez walkę opozycyjną względem rządów polskich, przychodzi wreszcie do przekonania, że marksizm w interpretacji Lenina jest jedyną doktryną, zdolną przeobrazić świat i udoskonalić go. (....) Droga Taraszkiewicza, dzięki polityce narodowościowej u nas, coraz bardziej staje się bitym gościńcem dla Białorusina. Polityka ta właśnie poprowadziła Taraszkiewicza z obozu radykalizujących polonofilów do obozu wiernych wyznawców doktryny komunistycznej. (...) O ile wyjazd Taraszkiewicza nikogo nie zadziwił, o tyle wymiana jego na Alechnowicza wszystkich zaskoczyła. Jaka ironia losu! Dawni starzy przyjaciele stanęli przy słupach granicznych, jako przedstawiciele wrogich sobie kierunków politycznych. I obydwaj uzyskali wolność po kilkuletnim więzieniu — jednocześnie...".

Францішак Аляхновіч, будучы ўжо ў Вільні, пісаў пра нахабства, якога дапусціліся ўлады БССР, мяняючы дэкрэтам Рады народных камісараў з 15 верасня 1933 г. беларускі правапіс: «Wiceprezes Białoruskiej Akademii Nauk tow. Dąbal wyjaśnia w prasie mińskiej, iż pomieniona reforma ma na celu oczyszczenie języka białoruskiego od naleciałości wprowadzonych przez białoruskich demokratów narodowych, którzy rzekomo usiłowali utworzyć sztuczną barierę między jęz. białoruskim a rosyjskim, drogą wyeliminowania zeń elementów rosyjskich. Reforma obejmuje 27 osobliwości jęz. białoruskiego, „reformując" go w ten sposób, iż one tracą swe brzmienie białoruskie i upodobniają się do rosyjskiego, a niektóre z nich wprost są zamienione wyrazami rosyjskimi. Tak ważny akt kulturalno-naukowy odbywa się bez udziału sił naukowych, staje się zarządzeniem administracyjnym, którego nikt nie poważy się nie spełniać. Co najciekawsze, że dekret o reformie pisowni przypada niemal w jednym czasie z przybyciem do Mińska autora reformowanej gramatyki B. Taraszkiewicza, bez wiedzy i aprobaty tegoż. To już nie tylko brak niezbędnej w podobnym wypadku kurtuazji, lecz coś więcej. (...) Białorusini, zamieszkujący w Polsce, jak było do przewidzenia, reformy sowieckiej nie uznali. Odbył się szereg protestów przeciwko rusyfikowaniu języka białoruskiego przez bolszewików". Пасля ў Польшчу даходзілі чуткі пра арышт, а нават пра смерць Браніслава Тарашкевіча.

(працяг будзе)

24 лістапада ў Выставачна-Канферэнцыйным цэнтры Беластоцкай архідыяцэзіі адбылася канферэнцыя на тэму „Стан польскай асветы на Усходзе”. Канферэнцыю ладзіў Рэгіянальны цэнтр міжнароднай дыскусіі ў Беластоку і Падляшская куратoрыя асветы. У адкрыцці канферэнцыі прысутнічаў падляшскі ваявода Багдан Пашкоўскі, прадстаўнікі Падляшскай куратoрыі асветы, консульства РП у Гродне, прадстаўнікі мясцовых навучальных устаноў, якія трымаюць кантакт са школамі ў Беларусі. Ды аніматары польскай асветы менавіта на Усходзе.


https://www.facebook.com/RODMBialystokBramanaWschod16

Аляксандр ВЯРБІЦКІ

# Польская асвета на Усходзе

■ Першая злева Тэрэса Крышынь

Беластоцкі цэнтр так інфармуе аб сабе ў адмысловым буклеце: „1 ліпеня 2016 года Асацыяцыя адукацыі і дыялогу „Фонтіс эт Футура” распачала працу Рэгіянальнага цэнтра міжнароднай дыскусіі Беласток „Брама на Усход”. Гэты праект суфінансуецца Міністэрствам замежных спраў Польшчы. Мы хочам, каб Беласток стаў месцам дыскусіі пра гісторыю і сучаснасць польска-літоўска-латышска-беларускага памежжа. Мы лічым, што гістарычныя, сацыяльныя і культурныя сувязі Падляшша з яго паўночна-ўсходнімі суседзямі будуць спрыяць сустрэчам і супольнаму абмеркаванню агульных праблем. Толькі адкрыты і беспярешкодны дыялог дапаможа нам лепей зразумець нашых усходніх суседзяў, усвядоміць іх пункт гледжання і палітычныя меркаванні. Цэнтр міжнароднай дыскусіі ў Беластоку, як форма грамадскай дыпламатыі, можа стаць месцам стварэння пазітыўнай нарацыі вакол польскай усходняй палітыкі і польскіх дзяржаўных інтарэсаў.”

І вось згодна гэтым мэтам на канферэнцыі разглядаўся стан польскай асветы ў Літве, Латвіі і Беларусі. Нас, вядома, найбольш цікавіць гэтае пытанне датычнае Беларусі. Становішча польскай асветы прадставілі тамашнія польскія грамадскія дзеячы. Я абмяжуюся толькі да выступленняў гарадзенскіх настаўніц Тэрэсы Крышынь і Анжалікі Арэхвы.

Даклад Тэрэсы Крышынь меў сінтэтычны характар: Сучасная Беларусь гэта амаль дзесяцімільённая дзяржава, дзе пражываюць прадстаўнікі амаль дзевяноста нацыянальнасцей. Каля 295 тысяч дэкларуецца палякамі; гэта другая пасля расіян нацыянальная меншасць у Беларусі, хаця існуюць цэлыя раёны, дзе палякі складаюць большасць — ад 50% да 85%. Паводле неафіцыйных статыстык у Беларусі пражывае ад паўмільёна да 1 200 тысяч асоб польскага паходжання. Заўважаецца розніца паміж польскімі згуртаваннямі на ўсходзе і на захадзе краіны, абумоўленая гістарычнымі і сацыялагічнымі фактарамі ды прыналежнасцю тых зямель да польскай дзяржавы ў міжваенны перыяд. Перапісы насельніцтва Беларусі паказваюць што паступае працэс асіміляцыі. Калі, паводле афіцыйных статыстык у 1989 годзе было 418 тысяч палякаў, то ўжо ў 2009 годзе — 295 тысяч; і лічым, што тэмп асіміляцыі набірае сілу. Зараз асветную палітыку ў Беларусі ў адносінах да нацыянальных меншасцей вызначаюць законы, у тым ліку Канстытуцыя Беларусі і Закон пра нацыянальныя меншасці, Закон пра правы дзяцей, Закон аб мовах ды іншыя прававыя акты. Правы палякаў засцерагаюць таксама двухбаковыя пагадненні паміж Беларуссю і Польшчай. Гэтыя акты гарантуюць нацыянальным меншасцям права карыстацца айчыннай мовай і навучання ёй, права на заснаванне школ з навучаннем на роднай мове ды навучанне роднай мове як прадмета, стварэнне ў прадшколлях груп з навучаннем і выхаваннем на роднай мове. Дзякуючы гэтаму паўсталі ў Беларусі дзве школы з польскай мовай навучання, былі прадшкольныя групы. Аднак у апошнія гады адносіны дзяржаўнай адміністрацыі і асветных органаў да навучання польскай мове можна акрэсліць як непрыхільныя і мэтава накіраваныя на цалкавітую элімінацыю польскай мовы з дзяржаўных школ. У гэтым намаганні лідзіруюць улады Гродзенскай вобласці. З прыкрасцю трэба канстатаваць, што прыняцце новых законаў абмяжоўвае права навучання польскай мове ў дзяржаўных асветных установах, прычыняецца да паменшання колькасці гадзін для навукі польскай мове ды, услед за гэтым, спад ліку дзяцей вывучаючых родную мову. Прадбачваныя змены ў Кодэксе адукацыі Рэспублікі Беларусь вядуць у тым напрамку, каб вучні польскіх школ здавалі матуральныя экзамены на дзяржаўнай мове — чытай: расійскай, а не як дагэтуль — на польскай. Далей: прывядуць да ўзбуйнення колькасці прадметаў навучаных па-расійску. Адміністрацыя школ, уступаючы перад націскам асветных улад, не дазваляе ладзіць заняткі па польскай мове перша- і другакласнікам пачатковых школ. Паўсюдна абмяжоўваецца магчымасць удзелу дзяцей у адзначанні гістарычна-патрыятычных і культурных падзей, ладжаных польскай грамадскасцю; пра ладжанне такога роду мерапрыемстваў у дзяржаўных школах зусім няма гаворкі. Забараняецца вучням выязджаць у Польшчу не дазваляючы ім пазнаць радзіму сваіх продкаў. Нават адміністрацыя польскіх школ мае клопат з ладжаннем польскіх нацыянальных святаў, у класах забаронена змяшчаць польскія нацыянальныя сімвалы, па дваццаці гадах працы надалей змагаемся з недахопам польскамоўных падручнікаў згодных з беларускімі праграмамі навучання. Абмяжоўваецца набор дзяцей у першыя класы. Праца ў польскай школе з'яўляецца выклікам для педагогаў, а само існаванне школ з'яўляецца пэўным клопатам для палітыкаў. Дырэктары дзяржаўных школ, дзе польскай мове навучаецца значная колькасць дзяцей, вымушаны тлумачыцца ў куратoрыях чаму выдзелілі гадзіны для навучання польскай мове, дадаткова мусяць пісаць тлумачэнні, чаму выпускнікі іхніх школ падаліся штудзіраваць у Польшчу. Прынятая ў 2012 годзе новая праграмная аснова для прадшколляў зліквідавала магчымасць навучання польскай мове ў гуртках дзяцей у дашкольным узросце. Такая сітуацыя выклікае агранізацыю грамадскага навучання польскай мове па-за школьнай сістэмай, пры польскіх арганізацыях і парафіях. У школах з польскай мовай навучання вучыцца амаль дзевяцьсот дзяцей. Падае затое лік дзяцей вывучаючых польскую мову як прадмет. Прычынілася да гэтага і т.зв. аптымізацыя навучання ў школах Беларусі, дзе клас павінен налічваць сама менш трыццаць дзяцей; паколькі ў класах з такім навучаннем польскай мове было менш дзяцей, тады такія класы былі часткова ліквідаваны. Каля пяці з паловай тысяч вывучае польскую мову на пазаўрочных занятках, якія адбываюцца пасля ўрокаў або па суботах. Лік навучэнцаў грамадскіх школах у апошніх гадах расце, зараз іх каля шасці тысяч. Такія школы могуць свабодна выбіраць праграму, там няма адміністрацыйных абмежаванняў. Аднак для іх трэба наймаць памяшканні, якія трэба дадаткова аплачваць. Усё ж такі намагаемся, каб навучанне на польскай мове ўвесці ў дзяржаўныя структуры навучання, бо тады дзяржава мае законны абавязак забяспечваць такое навучанне. Аднак — няма ўжо кафедры паланістыкі на Гродзенскім універсітэце, не рыхтуецца настаўнікаў польскай мовы ў Брэсце, абмежавана такое навучанне ў Гомелі і Віцебску. Толькі ў мінскім універсітэце навучаюцца настаўнікі польскай мовы, але гэта не першая спецыяльнасць навучання, але другая або нават трэцяя. Найцяжэйшай праблемай, з якой змагаюцца дзеячы польскай асветы ў Беларусі, з'яўляецца імкненне ўлад да дэпаланізацыі і асіміляцыі польскіх школ у Гродне і Ваўкавыску, паступовая ліквідацыя навучання польскай мове ў форме факультатыўных заняткаў у дзяржаўных школах, абмежаванне ролі няўрадавых арганізацый у публічнай прасторы, паступовая ліквідацыя падрыхтоўкі настаўнікаў польскай мовы ў вузах Беларусі ды іншыя. Наглядаецца тэндэнцыя да дэпаланізацыі Касцёла ў Беларусі, які польскія дзеячы ўспрымаюць як дадатковы чыннік дэнацыяналізацыі палякаў у Беларусі і чарговы дэматывацыйны чыннік для навучання польскай мове. Трэба помніць, што Каталіцкі касцёл на тэрыторыі Беларусі заўсёды быў касцёлам нацыянальнай меншасці, значыць касцёлам палякаў ці літоўцаў ды прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей. Вельмі цэнім паставу тых ксяндзоў, якія дазваляюць навучаць польскай мове пры парафіях, часам выступаючы ў ролі настаўнікаў. Аднак цягам апошніх тыдняў усе ксяндзы з парафій, дзе вялося навучанне польскай мове, выклікаліся ў ідэалагічныя камітэты дзеля тлумачэнняў, чаму дазваляюць навучаць польскай мове; ставіўся ім закід, што ў парафіяльных статутах няма запісаў пра такую дзейнасць. Некалькі гадоў таму дакладчыца правяла апытанне дзяцей у Беларусі вывучаючых польскую мову. На пытанне, чаму вывучаеш польскую мову, амаль 60% дзяцей адказала, што вучацца дзеля таго, каб выехаць у Польшчу штудзіраваць; чарговымі повадамі былі канікулы ў Польшчы, выезды, „прыдасца калісь у жыцці”. А на пытанне, вучуся, бо гэта мая родная мова, станоўча адказала толькі 20% дзяцей. Гэта балючы адказ, які прымушае прызадумацца як кшталтаваць пачуццё прыналежнасці да польскага народа ў Беларусі.

Анжаліка Арэхва сканстатавала, што зараз палякі ў Гродне вяртаюцца да тых абставін, якія былі ў пачатку 1990-х гадоў, калі хадзілі па хатах і намаўлялі бацькоў пасылаць дзяцей вывучаць польскую мову. І калі тады ўлады ставіліся прыхільна да гэтага, то зараз стаўленне ўлад памянялася, бацькоў запалохваюць і агітуюць каб не вучыць дзяцей польскай мове. Сталі вучыцца польскай мове дарослыя, а гэта дзеля атрымання Карты паляка. Па-польску навучаецца ў школах у Гродне і Ваўкавыску ды ў некаторых класах у Брэсце. Лік ахвотных такому навучанню расце, але ўлады ставяцца да гэтага непрыхільна, уводзячы розныя ліміты, якія абмяжоўваюць колькасць навучэнцаў, напрыклад, у гродзенскай школе дазваляецца набор толькі ў два першыя класы, таму не ўсе ахвотныя могуць быць прыняты. У мінулым навучальным годзе не было прынята 12 ахвотных, падобна было і сёлета. Каб падаць заяўку ў польскую школу, трэба было тады па некалькі гадзін чакаць у чарзе, а сёлета такая чарга доўжылася нават двое сутак. Сёлета школа наладзіла падрыхтоўчыя класы, у якія заявілася 75 асоб; з гэтага ліку можна сфармаваць тры класы, але калі ўлады не дазволяць, то зноў шмат з іх не будзе магла вучыцца польскай мове ў гэтай школе. Акрамя гэтага ў 2012 годзе

працяг ☞ 11

# Засталіся адно ўспаміны (29)

Калі я пасылаў у рэдакцыю дваццаць восьмы адрэзак маіх успамінаў, дык патэлефанаваў мне Валодзя Данілюк з Малліннік і кажа: «Знайшоў я на паддашку пратакол з вясковага сходу ў ліпені 1972 г., на якім абмяркоўвалася будова святліцы. Удзельнічалі ў ім начальнік гміны з Рыгораўцаў Антон Аўласюк (родам з Москаўцаў) і прадстаўнік Павятовай камендатуры пажарнікаў Славік Дажынка. Жыхары вёскі абавязаліся ўнесці грашовую складчыну па 250 зл. Святліца была здадзена ў карыстанне ў 1973 годзе. Кладоўку для пажарнага абсталявання дабудавалі ў пазнейшым тэрміне. Будова святліцы пасварыла жыхароў вёскі на даўжэйшы час, так што і зараз аб гэтым помняць.





Валодзя прыгадаў яшчэ вось такое здарэнне. Не памятае ён, у якім гэта было годзе, але аднойчы кіраўнік кіно не хацеў прадаць білетаў звыш нормы. Сеансы тады дэманстраваліся ў невялічкай зале, якая межавала з канцылярыяй. Выклікалі міліцыю з Бельска. Але кіношнікі не парушылі закону аб супрацьпажарнай ахове. Пасля гэтага школа падала заяву аб кваліфікацыі для сеансаў залы на першым паверсе. У Малінніках заўжды была значная прысутнасць кінааматараў на фільмах. Народ, значыцца, акуратна ставіўся да культуры.

Вёска мела сваіх музыкантаў. Памятаю, што мясцовы „аркестр” складалі чатыры музыканты: на гармоніку ігралі Валодзя Сахарчук і Лёнік Дзмітрук з калёніі Залешаны, на трубцы — Янка Сасноўскі з Кляшчэляў, а Валодзя Баршчэўскі быў бубначом. З Маліннік запамятаў я Мікалая Сахарчука, „Тэлевізорка”, як клікалі яго ў наваколлі. Працаваў ён у Кляшчэлях у геэсаўскай тэлевізійнай майстэрні. А з Маліннік таксама выходзіць вядомы агароднік Сцяпан Калішук, які вырошчваў дыні-веліканы і сланечнікі „пад неба”. З Маліннік выходзіць вядомы музыкант Сцяпан Копа і пявуння цётка Надзя Сахарчук — абое заўзятыя аматары беларускай песні.

Зараз з мінулага вёскі застаюцца адно ўспаміны. З таго часу захаваўся ў мяне сімпатычны ўспамін па „возьным” Федасю Шымонюку, які працаваў у школе. У яго быў сын Міхась. Мы з ім дружылі даўжэйшы час. Памятаю, як аднойчы запрасіў мяне на Прачысту, 21 верасня, да сваякоў у Левашах. Упершыню я падаўся ў гэтую вёсачку на „одпуст”. Пасля пачастунку пайшлі мы з Міхасём на забаву. Гулянка адбывалася на пляцоўцы пры вуліцы. Ажно пачуўся трэск ламаных частаколаў і жахлівы крык: «Чалавека забілі!». Хтосьці выклікаў хуткую дапамогу. А з Левашамі і Прачыстай прыгадалася мне, як кузаўская кавалерка туды на забаву паехала. Ранкам пасля Прачыстай пагладаю на вуліцу і бачу, як двух сябрукоў на плячах раму ад ровара нясуць.

— У чым справа пытаю?

— Кола адвінціліі, — заявіў калега.

Так вось калісьці гулялі на забавах у шасцідзясятыя гады. Але зараз адно ўспаміны засталіся па мінулых буднях. Усё праходзіць у забыццё...

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК






Апошнім часам у Байнэце ўзмацняецца тэндэнцыя стварэння сайтаў з абавязковай прысутнасцю на іх беларускамоўнай версіі. Гэтая тэндэнцыя, якая распачалася ад парталаў грамадскіх арганізацый і нацыянальна арыентаванага бізнесу, зараз перакінулася на сайты дзяржаўных органаў. Праўда, тыя з іх, што не маюць беларускамоўных версій, не па ўласнай ініцыятыве беларусізуюцца, а выключна па ўказцы зверху. Што ж тычыцца нацыянальна арыентаванага бізнесу, то ў адрозненні ад грамадскіх арганізацый, там гэтая тэндэнцыя хоць і ўзмацняецца, але не стала незваротнай. Таму пакуль такіх сайтаў не так многа, але прыемна, што яны закранаюць самыя розныя сферы тавараў і паслуг.

Сённяшняя Беларусь адметна тым, што беларускую мову выкарыстоўваюць часцей людзі, якіх прынята называць інтэлігентамі, то-бок тыя, хто зарабляе на хлеб разумовай працай. А тыя, хто лепш працуе рукамі, звычайна размаўляюць як большасць насельніцтва — на беларускарускай трасянцы. Аднак і тут ёсць выключэнні. Прыкладам гэтага можна назваць працаўнікоў мінскай фірмы G-gruz, якая прапануе паслугі грузчыкаў і ажыццяўляе грузаперавозкі.

Сайт дадзенай фірмы месціцца ў інтэрнэце па адрасе **www.g-gruz.com** і выглядае вельмі прывабна, прымушае спыніць на ім позірк. „Абярыце пункт прызначэння, а мы зробім усё астатняе!” — упэўнена кажуць уладальнікі фірмы. „Наша каманда гатовая да выезду кругласутачна, у будныя, святочныя і выходныя дні для хуткага і якаснага вырашэння вашых праблем”, — сцвярджаюць яны.

Сайт утрымлівае дзве моўныя версіі — беларускую і рускую. Першая адкрываецца па змоўчванні і на галоўнай старонцы абазначана бел-чырвона-белым гузікам. А каб выбраць другую, трэба націснуць на чырвона-зялёны гузік, у якога чамусьці маюцца дзве белыя кропкі, падобныя на вочы. Што гэтым хочуць казаць грузаперавозчыкі — незразумела. Але вось на сайце http://svaje.by, пра які „Ніва” пісала раней і на якім змешчаны пералік беларускамоўных сайтаў розных фірм, аб G-gruz гаворыцца: „Тут зарабляюць на хлеб сапраўдныя патрыёты. Адміністрацыя шчыра рэкамендуе гэты бізнес. Выдатная беларуская мова!”

Распавядаючы пра свае перавагі перад канкурэнтамі, уладальнікі G-gruz сцвярджаюць, што калі іх грузчыкі не прыехалі на замову, дрэнна працуюць ці не выходзяць на сувязь, то такіх працаўнікоў можна аператыўна змяніць. Пры гэтым на сайце пазначаецца, што працуюць там беларускія хлопцы. Цікава, ці значыць гэта, што хлопцаў іншых нацыянальнасцей у G-gruz не бяруць? Калі гэта так, то ўладальнікі могуць атрымаць сабе абвінавачванні ў дыскрымінацыі на нацыянальнай глебе.

Таксама сярод пераваг G-gruz пазначана тое, што фірма заўсёды на сувязі і заўсёды ў яе ёсць вольныя людзі. Пры гэтым, калі кліент хоча заказаць грузаперавозку, то „па магчымасці тэлефануйце загадзя, бо не заўсёды кіроўцы могуць быць вольныя”. Але гэта не ўсё, што мусіць высвятляць патэнцыйны замоўшчык. Так, згодна сайту http://svaje.by, фірма прапануе паслугі грузчыкаў у Мінску і Мінскай вобласці, а грузаперавозкі па ўсёй Беларусі. На самім жа „пагрузачна-разгрузачным” сайце пазначана, што фірма працуе ў Мінску, а замовы ў Мінскай вобласці таксама разглядаюцца і абмяркоўваюцца па тэлефоне. Пра Беларусь там не гаворыцца.

Аляксандр ЯКІМЮК

## Дата з календара

Маладосць і спеласць Крушыны



# 110 гадоў з дня нараджэння Рыгора Казака

Беларускі паэт, празаік, крытык Рыгор Крушына (сапраўднае прозвішча Казак) нарадзіўся 3 снежня 1907 г. у вёсцы Бязверхавічы Слуцкага павета (паводле іншых звестак у Вільні). Паходзіў з сям'і паштовага службоўца, дзяцінства праходзіла ў Вільні і на Случчыне (вёска Еўлічы). У 1914 г. сям'я ў час бежанства выехала ў Разань. Пасля Першай сусветнай вайны вярнуўся на Случчыну. У 1924 г. паступіў на Слуцкія агульнаадукацыйныя курсы, быў актывістам беларусазнаўчага гуртка. У 1925 г. паступіў у Мінскі беларускі педагагічны тэхнікум. Арыштаваны разам з малодшым братам Міколам у 1925 г. па справе Юркі Лістапада, пазней вызвалены. У 1927 г. паступіў у Мінскі беларускі педагагічны інстытут, стаў сябрам літаратурнага аб'яднання „Маладняк”. Скончыў Маскоўскі інстытут кінематаграфіі.

У пачатку Другой сусветнай вайны застаўся на акупаванай тэрыторыі. З 1944 г. жыў у Германіі. У 1950-1960-я гг. працаваў у Мюнхене ў беларускай рэдакцыі радыё „Свабода”. Потым выехаў у ЗША. Адзін з заснавальнікаў у 1951 г. Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку. Рэдагаваў часопіс „Конадні”. Друкаваўся ў многіх эміграцкіх выданнях. Пісаў паэмы, апавяданні, крытычныя артыкулы. Займаўся фарматворчасцю, упершыню ўвёў у беларускую літаратуру такія віды верша як паліндром, туюг, газэлі, канцона, японскія танкі, пісаў санеты, трыялеты, ронда, актавы, тэрцыны, працягваючы пачатае Багдановічам, Дубоўкам, Пушчам. Рыгор Крушына стаў першым беларускім пісьменнікам, які быў прыняты ў сябры Міжнароднага ПЭН-клуба.

Да вайны выйшлі першы паэтычны зборнік Крушыны „Разгон” (Гомель, 1930; у суаўтарстве з Сяргеем Ракітам), зборнік вершаў „Паэзія чырвонаармейца” (Мінск, 1931), падрыхтаваны трэці зборнік „Шкумат пачуцця”. У час вайны друкаваўся ў выданнях, якія выходзілі пры немцах — „Беларуская газета”, „Беларускі работнік”, „Раніца”. У ЗША выдаў зборнікі лірыкі „Лебедзь чорная” (1947), „Выбраныя творы” (1957), „Вячэрняя лірыка” (1963), „Хвіліна роздуму” (1968), „Вясна ўвосень” (1972), „Дарогі” (1974), „Сны і мары” (1975). Падрыхтаваны ў 1979 г. зборнік „Рэквіем” застаўся ў рукапісе. У эміграцыі Крушына, апроч 7 паэтычных зборнікаў, напісаў 6 цікавых паэм („Персідская легенда”, „Песня песняў Саламона”, „Эротава іскрынка”, „Кантата самотных”, „Паэма пра вусны”, „На руінах пачуццяў”). Як празаік напісаў апавяданне „Чорныя Дразды”, успаміны „Вогнішча”, „Пагібель праз жарты”, нарысы „Шумавінне”, „Паэзія геолагаў” (пра рэпрэсаваных беларускіх аўтараў), крытычныя артыкулы „Барыс Мікуліч”, „Сымон Будны”, „Паўлюк Шукайла”. Для ранняга перыяду творчасці Крушыны характэрна, што ён пісаў вершы на дазволеныя ідэалагічнай цэнзурай тэмы. У амерыканскі перыяд гучалі самыя разнастайныя матывы. Развіццё паэта, змест і эстэтычны лад яго вершаў змяняліся па меры асэнсавання аўтарам свабоды слова і жыцця ў вольным свеце. У яго паэтычных зборніках паўстае вобраз выгнанца — ужо вольнага паэта, але з параненым сэрцам, смуткам па пакінутай радзіме. Рыгор Крушына абвясціў прынцып свабоднага ад палітыкі і ўлад мастацтва. Пісаў таксама пад іншымі псеўданімамі: Алесь Апавядальнік; Кастусь Рамановіч.

Памёр Рыгор Крушына 27 сакавіка 1979 г. у Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі, ЗША), паводле іншых звестак у Вашынгтоне. Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

9 ☞ працяг

# Польская асвета на Усходзе

была першая спроба з боку ўлад увесці расійскія класы ў польскія школы. Прапанавалі захаваць навучанне па-польску, але ўвесці дадаткова два расійскія класы, тлумачачы, што многа дзяцей у мікрараёне і няма магчымасці навучаць іх інакш; гэта мела доўжыцца да збудавання новага школьнага будынка, куды б мелі пасля перайсці расійскамоўныя навучэнцы. Але дзякуючы актыўнасці польскіх бацькоў улады адышлі ад гэтай задумы; новай школы да гэтай пары не пабудавалі. Гэта, паводле нас, была першая спроба ўвядзення расійскай мовы ў польскую школу каб пасля ўзмацніць русіфікацыю гэтай школы. Дарэчы, некаторыя прадметы, як, для прыкладу, гісторыя, навучаюцца па расійску або беларуску, а згодна новаму заканадаўству, лік такіх прадметаў можна павялічыць па жаданні бацькоў або на аснове рашэння мясцовых улад. У нашых школах навучаюцца не толькі дзеці польскага паходжання, таму гэтая заканадаўчая навінка, дазваляючая далейшую русіфікацыю школ, нас трывожыць. Прадстаўнікі асветных улад паінфармавалі, што гэта ідэалагічнае пытанне... Калі мова пра недахоп падручнікаў для навучання па-польску, то гэтыя пытанні ставіліся на двухбаковых польска-беларускіх камісіях па навучанню на роднай мове, аднак дагэтуль справа не вырашана; размовы з беларускімі асветнымі ўладамі з 2014 года запыняюцца на абяцаннях. Падручнікі для пачатковага навучання ёсць, затое няма падручнікаў для навучання матэматыкі, фізікі, біялогіі... У гродзенскай і ваўкавыскай школах вучні карыстаюцца расійскамоўнымі падручнікамі, настаўнікі навучаюць па-польску, нататкі запісваюцца па-польску. Раней была магчымасць карыстацца падручнікамі з Літвы, але пасля праграмныя асновы змяніліся і такая магчымасць адышла. Зараз найбольш асоб вывучае польскую мову як прадмет у Магілёўскай вобласці, хаця большасць палякаў пражывае на Гродзеншчыне, і ўлады даказваюць, што па-за Гродзеншчынай людзі не наракаюць... У прадшколлях не дазваляецца навучаць польскай мове, бо ўлады не дапускаюць праграм навучання польскай мове, якія такія ж, як і праграмы навучання англійскай мове, якой можна навучаць беспераешкодна. Згаданыя ў папярэднім дакладзе заканадаўчыя дакументы маюць дэкларатыўны характар, а калі даходзіць да іх рэалізацыі то ўлады знаходзяць усялякія тлумачэнні, каб іх не выконваць.

Да ўсяго гэтага арганізатары паінфармавалі, што ў рамках Алімпіяды польскай мовы наглядаецца зніжэнне ўзроўню ўдзельнікаў гэтага мерапрыемства з Беларусі. Калі яшчэ некалькі гадоў таму былі яны парытэтнымі спаборнікамі польскіх вучняў, то зараз наглядаецца ў іх шмат недахопаў.

❖ Аляксандр ВЯРБІЦКІ

HISTORIA BIAŁORUSINÓW PODLASIA

Muzeum i Ośrodek Kultury Białoruskiej w Hajnówce

serdecznie zaprasza na prezentację książki

**"Historia Białorusinów Podlasia"**

Gościem będzie współautor książki **Oleg Łatyszonek**

Czwartek, **30 listopada 2017**, godz. 17:00
Muzeum i Ośrodek Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42

************************************

Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы

запрашае на прэзэнтацыю кнігі

***"Гісторыя беларусаў Падляшша"***

Госцям будзе суаўтар кнігі **Алег Латышонак**

чацвер, **30 лістапада 2017** у 17.00 г.
Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы, вул. 3 Мая 42

************************************

Spotkanie w ramach cyklu „Cyrylicą pisane" realizowane z dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji

## Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. насякомае з джалам у... насарога = 5 _ 10 _ 7 _;
2. кіпень у... скварцы = 4 _ 2 _ 3 _;
3. орган зроку = 1 _ 11 _ 12 _ 24 _;
4. драпежнік, які можа апранаць авечую шкуру = 18 _ 14 _ 17 _ 8 _;
5. свінскі нос = 23 _ 16 _ 15 _;
6. рэчка і мястэчка паміж Беластокам і Гайнаўкай = 13 _ 19 _ 20 _ 21 _ 22 _;
7. шумерскі горад у Месапатаміі = 9 _ 6 _ .

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| | | | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | | | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 46 нумара**

Барый, порах, Оўз, імгла, Сула, Ішым, хіпі, полымя, пяро, Астана, хаўруснік.

Рашэнне: **Прыйшоў Міхал, усіх з поля паспіхаў**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федарку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

## 03.12 — 09.12

**(22.03. — 20.04.)** Тваё жыццё павесялее, а праблемы лягчэй будуць вырашацца. Будзеш узорам для іншых. Хаця 5-7.12. не будзеш чамусьці цешыцца поспехамі; але запросяць цябе на экскурсію ў большай кампаніі. Нагоды для наладжвання новых кантактаў да 8.12. Будзеш крыху легкадумна ставіцца да свайго здароўя; калі адчуеш сябе горш, адразу ідзі да доктара!

**(21.04. — 21.05.)** Выклікі, якія паставіць перад табою лёс, будуць на меру тваіх магчымасцей. Магчымыя сардэчныя турботы і нечаканыя выдаткі. 5-7.12. лепш не вырашай нічога пад націскам. Ад 8.12. могуць вярнуцца справы, з якімі ты не справіўся. Аддай даўгі, не толькі матэрыяльныя. 3-9.12. можаш знайсці дадатковую крыніцу прыбытку. Твая кар'ера набярэ тэмпу пасля 9 снежня.

**(22.05. — 22.06.)** Дасканалыя адносіны з сябрамі на працы і з блізкімі ўзнагародзяць табе меншыя грошы і горшую форму. 3-5.12. можаш паказаць сябе ў горшым святле. Не прабуй нічога і нікога змяняць сілай (аж да 23.12.). 9.12. пачнецца прыліў тваёй крэатыўнасці і творчай незалежнасці, але і сустрэчы са смаркатымі, дык пільнуйся, каб не захварэць.

**(23.06. — 23.07.)** Многа часу зоймуць табе «прыземныя» справы, але ўрэшце справішся з усімі «хвастамі». Крыху нуднавата. На працы ці ў школе таксама будзеш спраўна сыходзіць з вачэй шэфа. Але будуць разбуджаны твае ўява і інтуіцыя. Хаця 3-4.12. можаш адчуваць сябе няўпэўнена і пад нейкай пагрозай, магчымыя канфлікты на працы і дома. Вельмі пільнуй цяпер свайго здароўя, але не панікуй. Не відаць канца сардэчных праблем, але глянеш на іх збоку.

**(24.07. — 23.08.)** Мноства прыемных хвілін у выдатнай кампаніі. Гуляй і карыстай з жыцця проста жменямі! Але 5-7.12. будзь вельмі дыскрэтным. Будзеш развіваць і здзяйсняць свае мары. Не будзе такой перашкоды, якой не адолееш. Папхнеш уперад пару зацягнутых спраў. Але 3-5.12. не вырашай пра інвестыцыі.

**(24.08. — 23.09.)** Новыя ідэі і задумы як іх рэалізаваць. Моцная фізічная і псіхічная форма, прыемна на працы, на якую будзеш прыходзіць не так дзеля заробкаў, як для кампаніі. Але зоркі могуць намяшаць у пачуццях. Вялікая падтрымка зорак для тваіх дзеянняў і прыёмаў. Хаця 3-5.12. старайся нічога не праваронiць ці занядбаць. 4-7.12. будуць бунтавацца рэчы і матэрыя.

**(24.09. — 23.10.)** Будзе многа важных занятkaў, але знойдзеш час на гульні і кампанейскае жыццё. 3-4.12. скандал у пары, здаецца, непазбежны. Але людзі будуць табе спрыяць. Знакаміты клімат і для тваіх талентаў. На працы мусіш быць на першай лініі фронту, каб дасягнуць поспеху; не бойся важных размоў. Нервовыя сітуацыі ў асоб народжаных у апошніх днях Шаляў. Дбай аб сваё дыханне.

**(24.10. — 22.11.)** Надыходзіць час твайго змагання і дзеяння. Можаш цяпер шмат дасягнуць! Не забывай, аднак, пра дыпламатыю. У снежні ты непераможны! Шчаслівая рука да грошай. Рух у фінансах. Нагоды вартыя для выкарыстання. Хаця 3-4.12. магчымыя злосць і нервы. Час на планаванне і падрыхтоўку канчаецца 9.12, цяпер дзейнічай на ўсю катушку!

**(23.11. — 22.12.)** Не мусіш турбавацца і востра змагацца — атракцыйныя прапановы прыйдуць да цябе самі! Будзеш у цэнтры ўвагі. Трываласць усіх тваіх дзеянняў. 3-4.12. рэалізуй змены. Але 3-5.12. не падпісвай дамоў і не рабі большых пакупак. 5-7.12. можа нойдуць на цябе горкія роздумы. Творчасць, энтузіязм і энергія — твае козыры. Чакаючы працу, не турбуйся адсутнасцю адказаў.

**(23.12. — 20.01.)** Стаў перад сабою амбітныя мэты — цяпер лёгка пераскочыш нават найвышэй павешаную перакладзіну! 5-7.12. сціхнуць спрэчкі ў пары. Сярод сяброў і радні будзь далікатны і тактычны. 3-9.12. пакажаш свой розум і адвагу. 5-7.12. будзеш бачны сярод настаўнікаў, выкладчыкаў, шэфаў. Моцна дбай аб сваё здароўе.

**(21.01. — 19.02.)** Твая кар'ера набярэ імпэту. Здабудзеш прызнанне і захапленне. Альбо пойдзеш сваёй прафесійнай дарогай. 3-4.12. лепш не дыскутуй. Таксама цяжка табе будзе засяродзіцца і сказаць, чаго хочаш (аж да 22.12.). Пі гарбаткі з шалфею і італьянскага кропу.

**(20.02. — 21.03.)** Зімовая аўра падагрэе эмоцыі. Час вырвацца з летаргіі і паваяваць за сваё шчасце! Кар'ера набярэ імпэту, але будуць высокія патрабаванні, прытым і прыхільнасць важных асоб. Наведвай цяпер установы і інстытуты. 3-5.12. будзеш ганарыцца! Але не тлумачся ў той час з нічога, што зрабіў. 8-9.12. (да 12.12.) будзеш лёгкай здабычай ашуканцаў, дык вельмі пільнуйся!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

**Нягледзячы на сумныя інфармацыі, якія наплываюць да нас з Усходу, Заходняя Украіна здаецца быць адарваным элементам гэтай вялікай дзяржавы. Тут бяспечна. А, едучы ў Карпаты, мы найбольш баяліся чэргаў на кардоне. Хаця ёсць розныя прагнозы дзе пераедзеш хутчэй, у рэальнасці чалавек і так сустракаецца з расчараваннем. Мы вырашылі дабрацца праз памежны пераход Дарагуск-Ягодзін. Той, як навучылі нас папярэднія паездкі, здаецца быць найбольш непрадказальным. Чакалі мы тут 8 гадзін, але часам дастаткова было і сарака хвілін, каб прапусцілі і палякі, і ўкраінцы. Думаю, што жыхарам Падляшша, калі гаварыць пра падарожжы па Украіне, не перашкаджае лінія Ханцінгтона, толькі менавіта тыя рэальныя засекі.**



# Рэгіён Доўбуша і яму падобных

Украінскія Карпаты гэта месца, дзе пражывала шмат нацыянальнасцей — палякі, украінцы, рускія, гуцулы, габрэі, немцы, армяне, венгры, румыны, цыганы — і на працягу многіх стагоддзяў мяшаліся тут розныя культуры. Падкарпацце было польскае, Закарпацце — венгерскае, а з пачатку дзевятнаццатага стагоддзя — аўстрыйскае. З 1945 г. гэтыя раёны апынуліся пад савецкай уладай, а сёння гэта частка незалежнай Украіны.

Дарога са Львова ў Івана-Франкоўск зусім не нагадвае тых на паўночна-заходняй частцы Украіны. Шырокая і без дзір. Каб не пратэст у Янтары, дзе мясцовыя людзі змагаліся з лакальным прадпрыемствам, якое забруджвае мясцовае возера, у Івана-Франкоўск мы даехалі б за паўтары гадзіны. Дарога, якой трэба было мінаць забастоўку, дазваляла нам ехаць не хутчэй, чым конным возам.

Івана-Франкоўск, раней Станіславаў, гэта вялікі горад пры самых Карпатах. Яго першапачатковая назва ўзялася ад імя польскага магната Станіслава Патоцкага. Помнікі архітэктуры прыпамінаюць пра польскі перыяд, але дастаткова паглядзець вакол, каб убачыць сляды ад яўрэяў і аўстрыйцаў. Паміж новымі, часам тандэтнымі, дамамі, спакойна стаяць векавыя драўляныя вілы, упрыгожаныя ганкамі і драўлянымі арнаментамі.

У Івана-Франкоўску мы спыніліся ў Андрэя, члена адной з найбольш уплывовых палітычных партый Украіны *Бацькаўшчына*, былога дабравольца, які вярнуўся з вайны і не хоча аб гэтым гаварыць. Успамінае Майдан, дзе быў амаль з самага пачатку. Да сённяшняга дня беражэ ваўняныя шкарпэты, якія грэлі яго ў час халодных начэй у Кіеве.

— Івана-Франкоўск — вельмі добрае месца для жыцця, — сказаў над міскай баршчу Андрэй. — На самой справе гуцулы гэта самыя прадпрымальныя людзі і добрыя палітыкі.

Аб гэтым, што гуцулы — тэмпераментныя людзі, мы пераканаліся, вяртаючыся на таксі. Вадзіцель, як пазней сам падкрэсліў, чыстай крыві гуцул, не хацеў нас узяць, думаючы, што прыйдзецца яму везці турыстак з Расіі. Але не толькі цяперашняя сітуацыя ўплывае на такое стаўленне некаторых украінцаў да ўсходніх суседзяў.

У 1939 годзе рабунак Гуцульшчыны пачалі савецкія захопнікі. Самі гуцулы неахвотна ўспрынялі калектывізацыю. Некаторыя былі сасланы на Урал. Прыватную ўласнасць захоўвалі толькі тыя, якіх абаранялі высокія горы. Астатнія заставаліся з кусочкам зямлі вакол дома, як гаворыць Андрэй, «на шырыню плуга». Таму свой бізнес пачынаўся вакол кожнай хаты (так у многіх месцах засталося і сёння). Адна сям'я, адна карова. Коні, частка гуцульскай тоеснасці, канфіскаваліся.

— Я памятаю канец гэтага кашмару, — кажа таксіст Вася. — Мае бацькі вярнуліся пасля 10 гадоў дэпартацыі за адмову працы ў калгасе. Яны былі знішчаны, але на дзяржаўнае не пайшлі. Пачакалі распаду Саюза і ўважліва з астатнімі гуцуламі вырашылі адабраць маёмасць. Людзі бралі трактар, бароны з калгасаў. Кожны браў столькі, колькі трэба. Хапіла ўсім.

Боршч — нацыянальная страва, якую можна купіць усюды, але і кожны ўмее яго падрыхтаваць дома. Наш гаспадар Андрэй зварыў яго на немалой свінскай косці. Вячэра была гасцінная, толькі Андрэй не мог глядзець, як мы з сяброўкай пачынаем чарговую пачку семачак.

— Як саветы, — гаварыў.

Усё-такі цёплая міска баршчу нагадала Андрэю не толькі родную хату, маці, якая варыць найлепш, але таксама славутую гісторыю і яркія постаці. Такой для гуцулаў быў мясцовы верхавод Алекса Доўбуш. Гэты гуцульскі Яносік стаў інспірацыяй для ўзнікнення песень, твораў і незлічонай колькасці вусных гісторый. Андрэй праспяваў цэлую песню «Ой попід гай зелененький» пра лёс героя.

— Польскія ўлады нават з дапамогай войска не маглі расправіцца з нашым важаком, — адзначыў Андрэй. — Усе спробы шляхты, каб знішчыць атрад Доўбуша, безвынікова цягнуліся сем гадоў.

Не толькі пра вайну, але наогул пра сучаснасць наш гаспадар не надта хацеў размаўляць.

— Тарас Прахаська ў Польшчы даволі папулярны. Лічыцца ён адным з самых лепшых украінскіх літаратараў. Ён здаецца з Івана-Франкоўска?— пытаюся.

— Ён у вас папулярны!? Такіх філосафаў у Франкоўску на кожнай вуліцы знойдзеш.

Паколькі нашым гаспадаром быў палітык, не пазбягалі мы і такіх тэм. Хаця гуцульская недаверлівасць напэўна прыпыняла суразмоўцаў даваць шчыры адказ, аднак дазваляюць сабе на палітычныя жарты і субтыльныя алюзіі, схаваныя ў легендах. Самі смяюцца, што Украіна падобная на легенду пра Алексу Доўбуша, гуцульскага Робін Гуда, якога велічыня заключалася ў тым, што краў толькі таму, каб раздаваць іншым.

Тэкст і фота **Улі ШУБЗДЫ**





ISSN 0546-1960 49